

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# НАША СЛОВА.pdf



**Другі год выдання** **№ 39 (91) 27 верасня 2023 г.**

# Восень у Завоссі

Літаратурна-музычны фестываль "Восень у Завоссі", прысвечаны 225-годдзю геніяльнага паэта Адама Міцкевіча прайшоу на месцы радавой сядзібы паэта, дзе стараннямі нашай дзяржавы створаны музей-запаведнік знакамітага земляка. Чарговы раз тут сабраліся пісьменнікі і творчыя калектывы Берасцкйшчыны і іншых рэгіёнаў Беларусі. Гучалі цудоуныя творы, прысвечаныя А. Міцкевічу і роднай зямлі.




Галоўная сцэна свята запрашала грамадскіх дзеячаў Берасцейшчыны і кіраўніцтва Навагрaдскага музея, каб адзначыць добрую арганізацыйную і творчую працу спецыялістаў і ўзнагародзіць пераможцаў конкурсу.

Цудоўна выступілі: рэдактар "Мастацкай літаратуры", паэт Віктар Шніп, літаратурна - паэтычнае аб'яднанне "Кульскія зоры" г. Баранавічы (кіраўнік - паэтэса Тацццяна Яцук). Песні і вершы Таццяны Яцук, Рэгіны Скіпар і Т. Смаляк, цудоўныя эсэ Ірыны Фаміной, артыстызм і прыгожая дэкламацыя А. Стрыжова, выступленні пісьменнікаў Берасцейскага аддзялення пад кіраўніцтвам Таццяны Дземідовіч стварылі атмасферу прыгажосці роднага слова і шыкоўнасці настрою.

Алея майстроў, старадаўнія мелодыі, канцэрт мастацкіх калектываў Берасцейшчыны, выставачныя стэнды Баранавіцкай раённай библіятэкі (дырэктар Лайша Т.М.) напэўна задаволілі б душу самаго Адама, які напэўна ўдзячны зямлі сваіх продкаў і нашчадкаў за шанаванне і добрую памяць. А гістарычная памяць наша - жыццёвы падмурак грамадства, моладзі, правільнае выхаванне якой і ёсць мэта творчай і навуковай працы.





Вось такая "Восень у Завоссі." Мне пашчасціла нават пасядзець у музеі Адама Міцкевіча за Яго сталом у кабінеце. Дзень быу нейкі светлы і, нягледзячы на тое, што юбілей паэта хацелася б адзначыць больш шырока, фестываль удаўся. Цудоўнае свята ў такім сакральным для нас месцы кожны год кліча беларусаў годнасцю і гістарычнасцю.

*Зоя Кулік, г. Нясвіж.*





# Самы шчыры патрыёт Слонімшчыны і астатняй Беларусі

***А ці можа хто ў Слоніме так любіць яго, як любіць свой горад Сяргей Чыгрын? Нават, калі Чыгрына адправіць у якую-небудзь тундру, то і тады яго не адарвуць ад Слоніма, бо Слонім паедзе з ім у сэрцы, у памяці, у думках і творах. Ды не толькі Слонім, а ўся Беларусь, якую ён усё жыццё даследуе, шукае, піша, друкуе. Са школьных гадоў не развітваецца Сяргей Чыгрын з пяром, бо без гэтага і Беларусі ён не зможа жыць: "О, Беларусь - спагада і свабода, я без цябе і думаць не змагу!".***

Сяргей Чыгрын і нарадзіўся 24 верасня 1958 года ў вёсцы Хадзявічы, ад якой дзесяць кіламетраў да старажытнага Слоніма. Хату, у якой ён гадаваўся, пабудаваў ягоны дзед ажно ў 1907 годзе. Хата стаіць і па сёння, Сяргей часта наведваецца на радзіму.

З гэтай дзедавай хаты Сяргей пайшоў у школу. Маці марыла, каб ён стаў настаўнікам. У беларускіх вёсках тады мала хто марыў пра большае, мала пра тое большае ведалі, але долі калгасніка з адвечнымі буракамі і гноем ніхто сваім дзецям не хацеў.

Ужо ў школьныя гады яго імя з'явілася на старонках дзіцячага піянерскага друку - у газетах "Піянер Беларусі", "Зорька", часопісе "Бярозка". Сяргей дасылаў у рэдакцыі заценкі, допісы, смяшынкі, замалёўкі. Пачаў ён складаць і вершы. А натхніла яго на тое, каб сесці за стол і рыфмаваць, па яго словах, "радыё, якое заўсёды, пастаянна гаварыла на роднай беларускай мове". Сапраўды, у той час, калі Сяргей быў школьнікам, ледзь не ў кожнай вясковай хаце беларускае радыё працавала цэлы дзень, не сціхала аж да поўначы. Мы штодня чулі з эфіру мілагучную плынь родных слоў. Праўда, паэтычны дэбют Сяргея Чыгрына ў друку адбыўся толькі ў 1975 г. Сакавіцкі нумар часопіса "Бярозка" выйшаў з яго вершам "Свеціць сонейка".

У школьныя гады Сяргей стаў вялікім аматарам кінамастацтва, цікавіўся тагачаснымі часопісамі пра кіно. Потым яго завабіў і незвычайна захапіў тэатр. Гэта і прадвызначыла выбар, які зрабіў адораны юнак са Слонімшчыны. Пасля сканчэння Хадзявіцкай васьмігодкі (1974) ён паехаў паступаць на тэатральнае аддзяленне Магілёўскага культпрасветвучылішча. Тады яму не мінула і шаснаццаці гадоў. Перш чым здаваць асноўныя экзамены, перад прыёмнай камісіяй Сяргею неабходна было паказаць эцюд. Страшэнна хваляваўся, бо яму бракавала сцэнічнага досведу, аднак, нягледзячы на гэта, не разгубіўся і добра выканаў эцюд-імправізацыю. Рэжысёр Валянцін Іванавіч Ермаловіч, які ў складзе прыёмнай камісіі ацэньваў абітурыентаў, пахваліў юнака. Магілёўскі перыяд стаў надзвычай важным і, напэўна, вызначальным у лёсе Сяргея Чыгрына. Ад таго часу, калі ён выходзіў на



*Сяргей Чыгрын на Шчары*

сцэну ў спектаклях, да сённяшніх дзён ён спалучаны з тэатрам. Сяргей Чыгрын шчыра прызнаўся: "…Пра вялікую сцэну не марыў. Я марыў быць тэатральным крытыкам. І крыху мая мара збылася. Бо я па-ранейшаму люблю тэатр. Бо тэатр - гэта хвароба: калі яе падхапіў, то назаўсёды" ("У творах - мой жыццяпіс"). У суаўтарстве з Васілём Ткачовым напісаў п'есу "Зачараваная хатка" (2016). З-пад яго пяра на свет з'явіліся п'есы "Падарункі Дзеда Мароза", "Зайкаў скарб", "Верталёт бабы-ягі", "Прыгоды вакол баравічка", для дарослых - камедыя "Банкамат для пенсіянераў". Пераклаў для тэатральных пастановак больш як 20 п'ес іншамоўных драматургаў: А. Астроўскага, К. Манье, К. Гальдоні, А. Хайта, Э. Успенскага, С. Міхалкова, Н. Абрамцавай, Г. Лабакіна, К. Папова, М. Каляды і іншых. Спектаклі па п'есах гэтых аўтараў знайшлі ўвасабленне на падмостках Слонімскага драмтэатра і сцэнах іншых беларускіх тэатраў. У 2008 годзе Сяргей Чыгрын выдаў кнігу "Тэатр у Слоніме" (2008), а ў 2020 годзе - "Слонімскі драматычны тэатр".





Рэжысёр, заслужаны работнік культуры Беларусі Валянцін Ермаловіч - родны брат вядомага гісторыка Міколы Ермаловіча. Праўда, тады С. Чыгрын пра гэта не ведаў. Сваёй беларускасцю і адносінамі да тэатральнай справы Валянцін Іванавіч зрабіў вялікі ўплыў на юнака са Слонімшчыны. Удзячнасць да свайго выкладчыка і старэйшага сябра Сяргей Чыгрын захаваў на ўсё жыццё. Ён падрыхтаваў і выдаў зборнік успамінаў пра В. Ермаловіча "Ачышчэнне душы" (2014). Менавіта Валянцін Іванавіч паспрыяў знаёмству Сяргея з паэтам Аляксеем Пысіным.

Сустрэча з Аляксеем Пысіным стала ў яго творчым жыцці і біяграфіі вельмі важнай і значнай, па сутнасці знакавай. Пачаўся паваротны этап у станаўленні Сяргея Чыгрына як паэта, маладога літаратара. Людзі мастацтва, якія сустрэліся на шляху юнака, і атмасфера творчага жыцця паўплывалі на яго далейшы лёс. Сяргей Чыгрын гаворыць: "За тры гады вучобы ў Магілёве з Валянцінам Ермаловічам і Аляксеем Пысіным мне давялося не раз прымаць удзел у літаратурна-музычных вечарынах і сустрэчах з чытачамі… Дзе мы толькі на Магілёўшчыне не былі! Дзе мы толькі не выступалі! Гэта быў рамантычна-светлы і найцікавейшы час майго юнацтва" ("Адчуванне сэрцам").

У 1977 г. Сяргея прызвалі ў савецкае войска. Яму, як казалі ў той час, патрэбна было аддаць Радзіме доўг. Трапіў ажно на савецка-кітайскую мяжу, служыў у Забайкальскай вайсковай акрузе. Нягледзячы на цяжкасці, складанасці салдацкага жыцця і побыту, імкнуўся праявіць свой творчы патэнцыял, а таму наладзіў сувязь з ваеннымі перыядычнымі выданнямі, для якіх пісаў на армейскія тэмы.

На схіле восені 1979 г. пасля тэрміновай вайсковай службы Сяргей вярнуўся ў родныя Хадзявічы. Не захацеў сядзець склаўшы рукі, уладкаваўся на працу ў суседняй вёсцы загадчыкам Сынковіцкага сельскага клуба. Праз нейкі час даслаў у "Сельскую газету" свае вершы. З рэдакцыі адказала літкансультант паэтка Яўгенія Янішчыц. Менавіта яна спрычынілася да публікацыі вершаў Сяргея Чыгрына на старонках газеты, а таксама дзякуючы ёй паэтычныя творы маладога аўтара са Слонімшчыны прагучалі на радыё ў перадачы "Шчырага сэрца парывы".

Цалкам лагічным і заканамерным быў шлях Сяргея на філалагічны факультэт БДУ. Тут ён апынуўся ў асяродку творчай беларускамоўнай моладзі, вучыўся на адным курсе з Сяргеем Кавалёвым, Міхасём Карпечанкам, Леанідам Трубачом, Міколам Хаўстовічам, Вольгай Савасцюк і інш. На філфаку ён знайшоў сябе як малады творца-паэт і крытык, паспрабаваў свае сілы і ў мастацкім перакладзе. Сяргей Чыгрын стаў старастам літаратурнага аб'яднання "Узлёт", якое на той час лічылася лепшым у рэспубліцы. Кіраваў "Узлётам" прафесар і паэт Алег Антонавіч Лойка. На чале аб'яднання такім чынам аказаліся два слонімцы.

Пасля заканчэння ўніверсітэта Сяргей Чыгрын з маладой жонкай Ірынай паехаў працаваць на сваю радзіму. На Слонімшчыне настаўнічаў у Глоўсевіцкай сярэдняй школе (1985-1988). Потым маладога настаўніка ўзялі на працу ў газету "За перамогу камунізму" (цяпер "Слонімскі веснік"), чатыры гады ён адпрацаваў карэктарам. Шмат пісаў, друкаваўся. Аднойчы сакратар Слонімскага гаркама партыі Уладзімір Разінкевіч сказаў, што Сяргей Чыгрын хоць карэктар, але піша больш за ўсіх супрацоўнікаў раёнкі. У 1992 г. з рэдакцыі газеты перайшоў у Слонімскі драматычны тэатр, дзе працаваў загадчыкам літаратурнай часткі. Затым падаўся ў недзяржаўны перыядычны друк, пакаштаваў журналісцкага хлеба. У 2003-2011 гг. - на пасадзе намесніка галоўнага рэдактара "Газеты Слонімскай". Аднак абставіны склаліся так, што вярнуўся ў тэатральную стыхію. Ранейшы досвед працы ў тэатры і літаратурна-творчы патэнцыял зноў спатрэбіліся ва ўнікальнай установе культуры раёна і краіны. Сяргей Чыгрын у 2011 годзе стаў загадчык літаратурнай часткі Слонімскага драматычнага тэатра, дзе працаваў да гэтага года..

Жыць і працаваць на радзіме - лёсу наканаванне. Напэўна, так Бог пажадаў-захацеў, а не толькі так склаліся абставіны. Гэта і жыццёвы крыж, і светлая радасць з дамешкам суму, і шчасце - шчасце ўжо хаця б таму, што Сяргей Чыгрын напісаў столькі цудоўных кніг пра свой родны край! Хтосьці любіць радзіму на адлегласці, з настальгіяй згадвае яе, а ён жыве тут, "дзе сэрцу ўсё блізка…". Штодня ходзіць па слонімскіх вуліцах, ездзіць шляхамі-дарогамі сваёй бацькаўшчыны, сузірае хараство навакольных краявідаў.

Радзімазнаўства - галоўны кірунак даследча-пошукавай і творчай дзейнасці Сяргей Чыгрына. І на гэтай дзялянцы ён знайшоў сябе, за шмат гадоў многае паспеў. Вывучаючы гісторыю радзімы як краязнавец, неўзабаве пераканаўся, што, кажучы яго словамі, "тут - поле неаранае". У нястомным шчыраванні на ніве радзімазнаўства Сяргей Чыгрын займеў багаты плён уласнай працы. Слонімскі руплівец выдаў некалькі дзясяткаў гістарычна-краязнаўчых кніг і літаратурных артыкулаў: "Янка Купала і Слонімшчына" (1993), "Родам са Слонімшчыны" (2003), "Пакліканыя на родны парог" (2005), "Чамяры і чамяроўцы" (2006), "У пошуках слонімскіх скарбаў" (2007), "Мастак Антон Карніцкі" (2009), "Жыў роднай песняй" (2010), "Альбярцін" (2011), "Па слядах Купалы і Коласа", "Такі іх лёс", "Слонімскія падмуркі", "Сярод сваіх людзей" (усе - 2012), "Іншых шляхоў не было", "Слонімскі буквар" (абедзве - 2013), "Хочацца дахаты", "Слонім і ваколіца" (абедзве - 2014), "125 пытанняў і адказаў з гісторыі Слонімшчыны" (2015), "Час спагадлівым не бывае" (2016) і інш. У гэтую скарбонку радзімазнаўчых выданняў дадаліся таксама такія кнігі Сяргея Чыгрына, як "Легенды і паданні Слонімшчыны" (2013), "Гісторыя Слоніма на старых фотаздымках і паштоўках (1900-1950)" (2014), "Слонімскія настроі" (2016) "Слонімскія гісторыі" (2017) і некаторыя іншыя.

Галоўны клопат Сяргей Чыгрына палягае ў тым, каб землякі, усе, хто жыве на Слонімшчыне, мелі да-





кладнае ўяўленне пра тое, што адбывалася на іх зямлі, хто і чым вызначыўся ў мінулым, каб зрабіць свой край і яго жыццё лепшым, праславіў яго сваім талентам і здзяйсненнямі. У краязнаўчых кнігах С. Чыгрын аднаўляе "часоў былых і новых сувязь", стварае найперш персаніфікаваную гісторыю радзімы - г. зн. гісторыю ў асобах, імёнах, абліччах славутых і вядомых землякоў. Без гэтай дыялектыкі малога і вялікага, без канкрэтных радзімазнаўчых ведаў па вялікім рахунку не можа быць сапраўднага нацыянальна-патрыятычнага духу і гарту, духоўнай еднасці і адзінства людзей. У чалавека мусіць быць адчуванне таго, што ён жыве і стаіць на сваёй зямлі, што радзіма - яго і грунт-апірышча, і духоўнае заплечча. Вось таму слонімскаму краязнаўцу і хочацца, каб кожны зямляк жыў у сэрцы з Радзімай, ведаў, адкуль ён і хто ён, ганарыўся зямлёй продкаў і выдатных людзей свайго краю.

У цэнтры краязнаўчых і літаратурна-даследчых зацікаўленняў С. Чыгрына - асоба, яе жыццё і дзейнасць. Сваю духоўную пародненасць, повязь са Слонімшчынай ён адчувае праз далучанасць да лёсу выдатных і выбітных землякоў. Ён даследаваў жыццёвы і творчы шлях Язэпа Стаброўскага, Гальяша Леўчыка, Кандрата Лейкі, Якуба Міско, Сяргея Дарожнага, Валянціна Таўлая, Анатоля Іверса, Сяргея Новіка-Пеюна, Васіля Супруна, Міколы Арочкі, Алега Лойкі, Янкі Саламевіча, Самсона Пярловіча і інш. Аднак краязнавец распавядае не толькі пра пісьменнікаў-землякоў, але і вядомых людзей са слонімскай зямлі самых розных прафесій і заняткаў: дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, мастакоў, навукоўцаў, медыкаў, вайскоўцаў, музыкаў, асветнікаў, педагогаў, сапраўдных беларускіх інтэлігентаў і патрыётаў. Імёны некаторых землякоў, як ужо адзначалася, вернуты краязнаўцам па сутнасці з нябыту. Дзякуючы яму стала больш вядомай асоба кампазітара і харавога дырыжора Антона Валынчыка і адбылося адраджэнне памяці пра мастака Антона Карніцкага - кожнаму з гэтых творчых людзей прысвечаны гістарычна-біяграфічны нарыс.

Шмат часу і высілкаў С. Чыгрын аддаў збіранню і вяртанню спадчыны заходнебеларускіх пісьменнікаў і літаратараў-землякоў. Дзякуючы яго пошукавай, збіральніцкай і ўкладальніцай працы пабачылі свет кнігі "Вяртанне да сваіх" (1999) Станіслава Грынкевіча, Франука Грышкевіча, Уладыслава Казлоўшчыка, "Рабінавы хмель" (2009) Сяргея Хмары, "Аўсяныя росы" (2011), "З глыбінь жыцця", "Жыццё і творчасць Анатоля Іверса" (абедзве - 2012) Анатоля Іверса, "Захацелася шчасця" (2012) Алеся Сучка, "Маркотныя зоркі" (2014) Янука Дарашкевіча, "Пан Трудоўскі" (2015) Кандрата Лейкі, "Прыкрыты сэрца боль" (2015) Язэпа Вількоўшчыка і некаторыя іншыя.

Паэтычная творчасць - яскравая, адметная грань асобы С. Чыгрына. Уласна кажучы, з вершаў ён пачынаў, як малады паэт-пачатковец уваходзіў у нашу беларускую літаратуру. Сёння на ягоным творчым рахунку чатыры вершаваныя зборнікі: "Шчырая Шчара" (1993), "Горад без цябе" (1999), "Лірыка" (2007), "Камень Міндоўга" (2009), "Едуць гетманы ў Слонім" (2020). У гэтых кнігах добра выявіўся талент Сяргея Чыгрына як паэта-лірыка. Тэксты лепшых паэтычных твораў пераконваюць, што ён умее пісаць вершы вобразныя, сэнсава ёмістыя і ўзнёсла-пачуццёвыя. Імпануе нацыянальны пафас твораў пра мінулае і беларускую рэальнасць. У лірыцы кахання найбольш адметна ўвасобіўся рамантычны свет яго лірычнага героя. Аднак у паэзіі Сяргей Чыгрын не прытрымліваецца прынцыпу "ні дня без радка". У адной з гутарак ён прызнаўся: "Час паэзіі ў мяне ўжо прайшоў. Гэта час маладосці…". Як вынікае са зместу інтэрв'ю апошняга часу, вялікай унутранай патрэбы ў тым, каб пісаць вершы, ён цяпер не мае. Гэтым і тлумачыцца катэгарычнасць выказвання пісьменніка: "…Сёння паэтычны перыяд скончыўся. Графаманам я быць не хачу, бо іх і так хапае ў кожным раёне. Хаця ўвага да паэтычных творцаў у нас сёння не такая пільная і шаноўная". Між тым Сяргей адразу абмовіўся, можна сказаць, выдаў сябе: "Але вершы пішу рэдка" (Рэжым доступу: baj.by›be/analytics/syargey-chygryn-grafamanam…bo…). Значыць, вершы ўсё ж пішуцца, няхай сабе не так часта, як раней.

Няпоўнай была б характарыстыка пісьменніцкай індывідуальнасці Сяргея Чыгрына без вылучэння яшчэ адной важнай творчай грані - іпастасі перакладчыка. Заахвоціла яго да паэтычных перастварэнняў на філфаку БДУ выкладчыца французскай мовы Святлана Мікалаеўна Любіч. Сяргей у студэнцкія гады зрабіў спробы перакладаў твораў Луізы Мішэль, Поля Элюара, Поля Верлена, Сальвадора Далі і іншых франкамоўных паэтаў. Перакладчыцкая праца займела свой працяг. Пераўвасабляў творы пераважна з украінскай і рускай моў. Апрача беларускамоўных перастварэнняў французскіх і ўкраінскіх паэтаў, ён пераклаў творы іншамоўных драматургаў.

А характарыстыка чалавека і грамадзяніна Сяргея Чыгрына была б няпоўнай, калі б не згадалі яго актыўную працу ў ГА “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”. Менавіта Сяргей Чыгрын быў рэдактарам літаратурных альманахаў “Паланэз” (Слонім) і “Ятранка” (Дзятлава), якія выходзілі пад патранажам ТБМ. Трэба згадаць і плённае супрацоўніцтва С. Чыгрына з газетай “Наша слова”. А з 2022 года ён стаў адным з асноўных аўтараў газеты “Наша слова.pdf”.

Сяргей Чыгрын не чакае ніякай і ні ад каго падзякі за сваю любоў да Слоніма, да іншых рэгіёнаў Беларусі, пра якія напісаў дзесяткі кніг. Хаця ён даўно заслугоўвае гэтага. Літаратар проста працуе і ўсё. Магчыма, што калі не сёння, дык праз 100 гадоў, нейкі беларускі краязнавец ці гісторык "адкрые" асобу Сяргея Чыгрына і здзівіцца той вялікай любові да радзімы, да нашай культуры і літаратуры, якая гучыць у кожным творы самага шчырага патрыёта Слонімшчыны і астатняй Беларусі.

*(Канспект артыкула доктара філалагічных навук,прафесара Алеся Бельскага “Закаханы ў родны край”).*




# Гарадзенскія пісьменнікі ў Лідзе

20 верасня ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы адбылася творчая сустрэча з прадстаўнікамі Гарадзенскага абласнога аддзялення ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі". На чарговае пасяджэнне літаратурнага аб'яднання "Суквецце" завітала старшыня абласнога аддзялення, паэтэса Людміла Кебіч, празаік Ліна Богданава (Галіна Богдан) і паэтэса Кацярына Каламійцава. Госці зачыталі свае вершы, падзяліліся гісторыяй іх узнікнення, расказалі пра сябе.











Разам з тым, цёпла павітала прысутных і гасцей член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, нам. дырэктара - галоўнага рэдактара дзяржаўнай установы "ЛідаМедыяКампанія" Серафіновіч Кацярына Адамаўна. Былі абмеркаваны пытанні і па далейшым супрацоўніцтве. А яно будзе, бо творчасць - яна для ўсіх, і яна павінна яднаць аднадумцаў.

***Алесь Хітрун.***





# Ты ў сэрцы маім, Беларусь!

"Ты ў сэрцы маім, Беларусь!". Канцэртная праграма пад такой назвай адбылася ў Палацы культуры горада Ліды. Удзельнікі IV фестывалю мастацтваў беларусаў свету падаравалі лідскім гледачам часцінку сваёй творчасці і сваёй душы. Землякоў, якія жывуць ў Расіі, Рэспубліцы Карэлія, Рэспубліцы Крым, Злучаных Штатах Амерыкі і Латвіі прывітаў народны ансамбль песні і танца "Лідчанка". У сваю чаргу госці дзяліліся талентамі ў песенным, літаратурным і танцавальным напрамках мастацтва.























У рамках канцэртнай праграмы "Ты ў сэрцы маім, Беларусь!" творчых калектываў і выканаўцаў- удзельнікаў IV фестывалю мастацтваў беларусаў свету прагучалі выключна творы беларускіх аўтараў, народныя песні. Нашы землякі не забыліся і беларускія народныя танцавальныя кампазіцыі. Як адзначыў начальнік аддзела культурна-асветнай работы, мастацтваў і вучэбных устаноў упраўлення культуры Гарадзенскага аблвыканкама Сяргей Давыдзік, мастацтва аб'ядноўвае, робіць беларусаў, якія жывуць у розных краінах, бліжэй, нягледзячы на межы і адлегласці.

На памяць аб радзіме кожны ўдзельнік праграмы забярэ з сабой яскравыя ўспаміны, сувеніры, дыпломы і любоў лідскай аўдыторыі.

***ТК "Культура Лідчыны".***





## Футбалісты "Баварыі" перамаглі "Манчэстар Юнайтэд" на старце Лігі чэмпіёнаў



Мюнхенская "Баварыя" абыграла ангельскі "Манчэстар Юнайтэд" у першым туры групавога этапу футбольнай Лігі чэмпіёнаў, паведамляе карэспандэнт БЕЛТА.

Гуляючы на сваім полі, чэмпіёны Германіі на працягу ўсёй сустрэчы валодалі ініцыятывай і ў выніку дамагліся перамогі з вынікам 4:3. Адзін з мячоў забіў пачатковец баварскага клуба форвард ангельскай зборнай Хары Кейн, які рэалізаваў пенальці напачатку другога тайма. У іншым паядынку папярэдняй групы А турэцкі "Галатасарай" у Стамбуле згуляў унічыю з дацкім "Капенгагенам" - 2:2.

У квартэце D фіналіст мінулага сезону ЛЧ італьянскі "Інтэр" з Мілана ў іспанскім Сан-Себасцьяне разышоўся мірам з мясцовым клубам "Рэал Сас'едад" - 1:1. У Лісабоне партугальская "Бенфіка" нечакана саступіла аўстрыйскаму "Зальцбургу" з лікам 0:2.

Вынікі стартавых сустрэч у астатніх групах:

B - "Севілля" (Іспанія) - "Ланс" (Францыя) - 1:1, "Арсенал" (Лондан, Англія) - ПСВ (Эйндховен, Нідэрланды) - 4:0;

C - "Рэал" (Мадрыд, Іспанія) - "Уніён" (Берлін, Германія) - 1:0, "Брага" (Партугалія) - "Напалі" (Італія) - 1:2;

E - "Лацыё" (Рым, Італія) - "Атлетыка" (Мадрыд, Іспанія) - 1:1, "Фейенаорд" (Ратэрдам, Нідэрланды) - "Селтык" (Глазга, Шатландыя) - 2:0;

F - "Мілан" (Італія) - "Ньюкасл" (Англія) - 0:0, "Пары Сен-Жермен" (Францыя) - "Барусія" (Дортмунд, Германія) - 2:0;

G - "Манчэстар Сіці" (Англія) - "Црвена Звезда" (Белград, Сербія) - 3:1, "Янг Бойз" (Берн, Швейцарыя) - "Лейпцыг" (Германія) - 1:3.

H - "Барселона" (Іспанія) - "Антвэрпен" (Бельгія) - 5:0, "Шахцёр" (Данецк, Украіна) - "Порту" (Партугалія) - 1:3.

Сустрэчы групавога этапу завершацца 13 снежня, пасля чаго па дзве лепшыя каманды з кожнай групы выйдуць у 1/8 фіналу ЛЧ. Клубы, якія фінішуюць трэцімі, пяройдуць у 1/16 фіналу Лігі Еўропы. Матчы плэй-офф чэмпіёнскай Лігі пройдуць з 13 лютага па 8 траўня 2024 года, фінальны матч адбудзецца 1 чэрвеня на лонданскім стадыёне "Уэмблі". У вырашальным матчы мінулага сезону "Манчэстар Сіці" з лікам 1:0 адолеў "Інтэр".

***БЕЛТА. Фота з архіва.***

***Навіны Германіі***

# Супержанчына Актоберфэсту

У Мюнхене ў самым разгары штогадовы фестываль, куды з усяго свету з'язджаюцца аматары піва.

Гэтым разам у сацсетках завірусілася відэа, дзе адна з афіцыянтак па-майстэрску нясе 13 куфляў з півам: па шэсць у кожнай руцэ і адзін зверху.

Агульная вага куфляў, заўважаюць каментатары, можа складаць каля 30 кілаграмаў.







Дарэчы, мюнхенская паліцыя далучылася да свята і выкарыстала гукаўзмацняльнікі для стварэння дыскатэкі.

Удзельнікі фэсту дзеляцца забаўнымі відэа ў тыктоку.

***Паводле СМІ.***



# Руплівы даследчык беларускай мовы

У гісторыю беларускай філалогіі і культуры навечна ўпісана імя руплівага даследніка роднага слова, знакамітага вучонага і пісьменніка Фёдара Янкоўскага (1918-1989). 21 верасня яму спаўнілася 105 гадоў з дня нараджэння.



Нарадзіўся Фёдар Янкоўскі ў вёсцы Клетнае на Магілёўшчыне. Скончыў Рагачоўскі педагагічны тэхнікум. Працаваў школьным настаўнікам і адначасова завочна вучыўся ў Менскім настаўніцкім інстытуце. Зведаў жахі дзвюх войнаў. З савецка-фінляндскай вайны вярнуўся інвалідам. Падчас Другой сусветнай вайны страціў жонку і маленькую дачку, якіх спалілі фашысты. Быў партызанам-разведчыкам, узначальваў разведку атрада "Грозны", які дзейнічаў паблізу Менска, і таксама быў цяжка паранены. У пасляваенныя гады Фёдар Янкоўскі скончыў Гарадзенскі педінстытут імя Янкі Купалы, потым аспірантуру пры Менскім педінстытуце імя М. Горкага. З гэтым інстытутам былі звязаны 36 год яго працоўнага жыцця. Тут у 1953 годзё ён пачаў сваю дзейнасць як выкладчык беларускай мовы, у 1956-1982 гадах узначальваў кафедру беларускага мовазнаўства, якая пры Фёдары Янкоўскім стала адным з вядучых навуковых цэнтраў філалогіі ў рэспубліцы. На пасадзе прафесара ён працягваў працаваць на кафедры да апошніх дзён жыцця. Кіраваў падрыхтоўкай маладых спецыялістаў, вучоных, быў членам некалькіх спецыялізаваных саветаў па абароне доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый. Шмат гадоў Фёдар Янкоўскі ўзначальваў Рэспубліканскае метадычнае аб'яднанне лінгвістаў-беларусаведаў, быў членам Рэспубліканскага камітэта славістаў, старшынём лінгвістычнай секцыі навукова-метадычнага савета Міністэрства асветы Беларусі. Кола навуковых зацікаўленняў Фёдара Янкоўскага было шырокім і шматгранным. У творчай спадчыне вучонага каля трохсот прац: манаграфіі, слоўнікі, дапаможнікі, падручнікі, артыкулы па беларускім і агульным мовазнаўстве, культуры мовы, але ў большасці публікацый сваю ўвагу ён аддаваў вывучэнню скарбаў народнай мовы. Родным глускім гаворкам была прысвечана кандыдацкая дысертацыя Фёдара Янкоўскага і тры выпускі "Дыялектнага слоўніка" (1959, 1960, 1970), матэрыял якіх быў зафіксаваны таксама ў Глускім раёне. Вучоны вельмі любіў і цаніў народную прыказку, трапнае народнае выслоўе. У 1957 годзе выйшаў складзены Фёдарам Янкоўскім зборнік "Беларускія народныя прыказкі, прымаўкі", які ўключаў пяць тысяч гэтых устойлівых моўных адзінак. Зборнік быў станоўча прыняты грамадскасцю і ў 1962 годзе выйшаў другім выданнем пад назвай "Беларускія прыказкі, прымаўкі і фразеалагізмы", прычым колькасць прыказак, прымавак, устойлівых народных параўнанняў і фразеалагізмаў у ім была даведзена да васьмі тысяч. Апошняе, чацвёртае, выданне гэтага зборніка выйшла ў свет у 2004 годзе. Цікавіла даследчыка і праблема афарыстычнасці слова. У 1960 годзе ён выдаў кнігу "Крылатыя словы і афарызмы: з беларускіх літаратурных крыніц". Гэта была першая ў беларускім мовазнаўстве спроба навуковага асэнсавання ролі крылатых слоў і выслоўяў у сучаснай беларускай літаратурнай мове. Шэраг артыкулаў вучоны прысвяціў афарызмам Якуба Коласа, Янкі Брыля, Ядвігіна Ш., Алаізы Пашкевіч (Цёткі). Важнай падзеяй у беларускім мовазнаўстве стаў выхад тлумачальнага слоўніка беларускай народнай фразеалогіі "Беларуская фразеалогія. Фразеалагізмы, іх значэнне і ўжыванне" (1968), пра які вучоны-славіст Карл Гутшміт сказаў, што гэтая праца адзіная ў сваім родзе ў славістыцы. Акрамя збірання і публікацыі фразеалагічных багаццяў роднай мовы, Фёдар Янкоўскі займаўся і тэарэтычнай распрацоўкай гэтых моўных адзінак. Ёй прысвечаны яго доктарская дысертацыя, а таксама навуковыя працы "Роднае слова" (1967, 1972), "Беларуская мова" (1978), "Беларуская фразеалогія" (1968, 1981), "Сучасная беларуская мова" (1984). Гэтыя працы вызначаюцца глыбінёй даследавання, багаццем і надзейнасцю ілюстрацыйнага матэрыялу. Яны атрымалі высокую ацэнку вучоных-філолагаў і пісьмен-



***Фёдар Янкоўскі, Уладзімір Калеснік і Янка Брыль на адпачынку***




ФЁДАР ЯНКОЎСКІ
З нялёгкіх дарог
выбранае
МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1988

нікаў. Значнае месца сярод даследаванняў Фёдара Янкоўскага займалі працы, прысвечаныя пытанням нармалізацыі і культуры беларускай літаратурнай мовы. Чатыры разы перавыдавалася (з некаторымі папраўкамі, удакладненнямі і дапаўненнямі) яго кніга "Беларускае літаратурнае вымаўленне" (1960, 1966, 1970, 1976). Клопатам пра правільнае ўжыванне слоў, іх літаратурнае вымаўленне прасякнуты працы "Пытанні культуры мовы" (1961) і "Вусная мова і выразнае чытанне" (1962). Вялікую ўвагу надаваў Фёдар Янкоўскі стварэнню вучэбных дапаможнікаў. Асабліва цікавым і каштоўным з'яўляецца падрыхтаваны ім дапаможнік для студэнтаў "Гістарычная граматыка беларускай мовы", які таксама вытрымаў некалькі выданняў (1974, 1983, 1989). Гэта быў глыбока навуковы і разам з тым даступны для студэнтаў падручнік. Высока ацэньваліся і дапаможнікі, у якіх Фёдар Янкоўскі выступаў як суаўтар і рэдактар. З імем вучонага звязаны і такі аспект лінгвістыкі, як аналіз мовы мастацкага твора. Створаная ім беларуская лінгвістычная школа праводзіла даследаванні па тэме "Слова, фразеалагізм, словазлучэнне ў кантэксце". Пад такой назвай ці па такой тэме, пачынаючы з 1975 г., выходзілі зборнікі навуковых артыкулаў, нязменным кіраўніком і рэдактарам якіх быў Фёдар Янкоўскі. Сведчаннем яшчэ адной грані таленту гэтага чалавека з'яўляюцца яго зборнікі мастацкай прозы, якія вучоны пачаў друкаваць ужо ў сталым узросце. Апавяданні-мініяцюры Фёдара Янкоўскага пачалі з'яўляцца на старонках перыядычных выданняў з 1973 года. Пазней гэтыя апавяданні-мініяцюры склалі зборнікі "Абразкі" (1975), "І за гарою пакланюся" (1982), "Радасць і боль" (1984), "З нялёгкіх дарог" (1988). У іх пісьменнік апавядае пра сваё дзяцінства, ваенныя гады, сучаснае жыццё, сустрэчы з цікавымі людзьмі. Проза Фёдара Янкоўскага з'явілася арганічным працягам яго філалагічнай дзейнасці і цудоўна адлюстроўвала, як тонка ведаў і адчуваў родную мову пісьменнік. Апавяданні-мініяцюры, у якіх ён расказвае пра пачутыя цікавыя словы і выразы, склалі кнігу "Само слова гаворыць" (1986), вельмі высока ацэненую спецыялістамі і пісьменнікамі.

***Паводле СМІ.***

# Мудры настаўнік - Алесь Белакоз



У Гудзевіцкім літаратурна-краязнаўчым музеі Мастоўскага раёна адкрылася выстава, прысвечаная заснавальніку музея Алесю Белакозу (1928-2016) з нагоды яго 95-годдзя. Выстава называецца "Мудры настаўнік - Алесь Белакоз!".

Адкрыццё выставы прайшло ў прыемнай і пасяброўску цёплай абстаноўцы. Мерапрыемства наведалі жонка Алеся Белакоза Вера Ігнатаўна Белакоз, былыя вучні і калегі, а таксама не абмінулі ўвагай выставу цяперашнія вучні Гудзевіцкай сярэдняй школы.




***Вера Ігнатаўна Белакоз падчас адкрыцця выставы***

На выставе прадстаўлены фотаздымкі, дакументы, узнагароды, шматлікія інтэрв'ю і артыкулы ў газетах, кнігі ўспамінаў і аповедаў пра Алеся Мікалаевіча Белакоза. Выстава раскрывае настаўніцкую, краязнаўчую і музейную дзейнасць Алеся Мікалаевіча, а таксама распавядае пра цікавыя звесткі з яго асабістага жыцця.



***Алесь Белакоз з вучнямі і настаўнікамі, 1959 г.***

Выстава будзе працаваць да 9 кастрычніка.

***Паводле СМІ.***





# Вальс з Нінай Мацяш

20 верасня - 80 гадоў з дня народзінаў паэткі і перакладчыцы Ніны Мацяш. Гэта выглядала сапраўдным дзівам - чалавек у інвалідным вазку быў крыніцай жыццёвага аптымізму для маладзейшых і абсалютна здаровых людзей. Ніхто ніколі не чуў ад Ніны Язэпаўны ніякіх скаргаў, не бачыў яе слёз. І вершы ў яе не слязлівыя, хоць да вобразу слязы паэтка звярталася даволі часта. Але - менавіта да вобразу. Як гэта зрабіў, напрыклад, рэжысёр Мэл Гібсан у фінале свайго вядомага фільма "Пакуты Хрыстовы". Памятаеце, там Божая сляза падае з галавакружнай вышыні на Галгофу, дзе ўкрыжаваны Хрыстос. І ўся гісторыя чалавецтва мільгае ў той усеабдымнай слязе.



Не жадаю нікому ні болю, ні плачу, але згадайма, якім абноўленым, прасветленым і падабрэлым бачыцца нам навакольны свет пасля слёз! Вось і Ніну Мацяш цікавіў мікракосм слязы, яе сусвет, спалучаны з іншым падобным сусветам. Нездарма ў адным з яе вершаў чацвёрачы, рэфрэнам паўтараецца радок: "О, як твая сляза ў маю слязу глядзела!"

Перачытваю кнігу паэткі з невыпадковай назвай "Паміж усмешкай і слязой" і міжволі пазначаю радкі з гэтым знакавым для яе словам.

"І ў Даліне слёз - так, як у раі:
кушчы, травы ў квеце ды расе.
У Даліне слёз і неба грае -
але ціша перуны пасе";

"Смех паклоніцца нізка слязе
за спатканае шчасце";

"Тры дні і тры ночы
праляцелі, як тры пчолкі:
мёду слязіначка свеціцца";

"На раскрылле карычневай страказы
падае чыстае, быццам слязіна, "люблю";

"Але прамень святла на веі ўжо кладзецца ад слязы -
ад той слязы, пасля якой дыханне набывае песня";

"Так не вязаўся мірны краявід з пякельнай ношай слёз"…

У вершы ўсё ж прарывалася тое, на што ў штодзённых стасунках з сябрамі было накладзена табу.

Каб спатрэбілася ахарактарызаваць вершы Ніны Мацяш адным-адзіным словам, я назваў бы іх - далікатнымі. Гэта не азначае, што паэтка цуралася грамадзянскіх тэмаў, зусім не. Але прызванне яе - менавіта ў лірыцы, якая не можа быць не далікатнай.

Ноч. Ні зыку. Ад стала дападае
Ясначолых кацярынак дыханне.
Над зямлёю ледзве-ледзве світае,
А ўва мне і апоўначы - ранне.
Скуль узяўся ты ў мяне гэткі,
Што ва ўсенькай старане наскай
Кветкі толькі ад цябе - кветкі,
Ласка толькі ад цябе - ласка?..

Караценькі верш, але як у ім усё вывերана і ўзважана - не раўнуючы як на фармацэўтычных вагах! Гэта якраз той выпадак, калі "ўсе словы дарэчы, усе ўчынкі да месца, усе стрэлы ляцяць у цэль" (Алесь Разанаў).

І яшчэ адзін "учынак да месца" хочацца прыгадаць. Помню, са здымачнай групай Беларускага тэлебачання прыехаў я ў Белаазёрск - тэлевізійнікі рабіць фільм пра Ніну Мацяш, я - браць інтэрв'ю. Пакуль аператар прыладкоўваў камеру, Ніна Язэпаўна пад'ехала на сваім вазку да нацыянальнага сцяга і сказала, што ён мусіць пры здымках быць абавязковым фонам.

Ішоў пасляэферэндумны 1996 год… Аператар разгублена патаптаўся за сваім трыножнікам, параіўся са сцэнарысткай і - пачаў здымаць. На дзіва, той тэлеўрок яшчэ паспеў прайсці ў эфір.

А аднойчы мы прыехалі ў Белаазёрск са светлай памяці дударом Зміцерам Сідаровічам. Проста на беразе Белага возера ён выцягнуў дуду і зайграў - сцішэлай вадзе, крыклівым чайкам і сонцу, што сляпуча адбівалася ў



затоцы. І гукі дуды ляцелі далёка-далёка - да каміноў электрастанцыі, да гарадскіх шматпавярховікаў, да вёскі Нівы, дзе ў мнагадзетнай сям'і Язэпа і Алены Мацяшоў 20 верасня 1943 года, на мяжы смарагдавай і залатой восені, нарадзілася дачушка Ніна.

Там, на Бярозаўшчыне, яна вырастала і сталела як паэтка. Засвоіўшы ўрэшце і найвышэйшы паэтычны пілатаж - пускаць у свет словы ўласнай гадоўлі. Бо хоць у самым поўным беларускім слоўніку больш за 100.000 слоў, сапраўдным паэтам іх не хапае, і яны даствараюць мову - шэдэўральны твор, які давершыць, дакончыць, дапісаць проста немагчыма. Скажам, прыдумвалі новыя словы Уладзімір Дубоўка і Рыгор Барадулін, засяроджана вынаходзяць наватворы наш сучаснік Алесь Разанаў.

Стварыла свой мінíслоўнічак і Ніна Мацяш. Вось пушчаныя ёю ў беларускі свет словы: *прыластаўчыцца, угнездаваць (у сэрца), апірка, святліна, вільгота, дніна, чуйнар, сыплівы (пясок), вогніцца, сонечніцца…*

Чытайма яе паэзію (арыгінальную і перакладную), і лягчэй перажывем час культурнага зацьмення, якое апусцілася на нашу грэшную зямлю. Чытайма, бо там - святло, там дэфіцытныя на сёння любоў і міласэрнасць, а яшчэ там - безліч афарызмаў-падказак на ўсе выпадкі жыцця. Накшталт гэтага:

"Гасподзь схіляецца да ўсіх,
ды ніцых духам Ён не чуе".

Неяк я не стрымаўся і наўпрост запытаўся ў Ніны Язэпаўны, як ёй, нягледзячы на стан здароўя, удаецца не толькі самой пазбягаць гэтага ніцадушша, але і пазбаўляць ад яго іншых людзей? І ў адказ пачуў: "Ой, я на такія тэмы і гаварыць баюся. Я перакананá ў адным: чалавек прыйшоў на зямлю не дзеля агрэсіі і разбурэння, ён прыйшоў дзеля любові, каб пашыраць вакол сябе святло, гармонію і красу. Калі ты знаходзішся ў цёмным пакоі, і на цябе ціснe цемра, - чыркні хоць сярнічкай, запалі свечачку. І цемра адступіць".

Ніна Мацяш запальвала ўсе свае свечкі, усе свае лямпы - і цемра адступала. Яе прастора заўсёды была светлай, і светлыні хапала на ўсіх. І нават сёння хапае.



*Ніна Мацяш, Янка Брыль, Сяргей Законнікаў, Ніл Гілевіч*

Сапраўдныя паэты - як далёкія зоркі: нават даўно згаснуўшы, яны працягваюць дарыць нам сваё святло.

Прыгадваецца і наша апошняя сустрэча - 17 снежня 2008 года. Мы прыехалі на Берасцейшчыну з паэтам Васілём Жуковічам і бардам Алесем Камоцкім. Выступілі ў Бярозаўскай СШ №1, дзе дырэктарам выдатны педагог і сябра Ніны Мацяш Мікола Жуковіч, завіталі ў Белаазёрскую гімназію - па запрашэнні Галіны Скарыны, таксама яе сяброўкі. А перад трэцяй сустрэчай, у Белаазёрскім электрамеханічным каледжы, заехалі па Ніну Язэпаўну (раней дамовіліся, што яна да нас далучыцца).

Сустрэла нас паэтка проста з парога… падарункамі. Кожнага абдарыла сваёй пяшчотнай пёркаграфіяй - невялічкай карцінай, дзе замест фарбаў выкарыстоўвалася птушынае пер'е. А потым выказала сумнеў, ці змагу я яе данесці да машыны. На маё рашучае "не сумнявайцеся" прапанавала ўсё ж патрэніравацца ў кватэры. Я падняў яе з вазочка, лёгкую, як пушынка, і закружыўся па пакоі, як у вальсе. Зрабіў некалькі кругоў і падзякаваў за танец. Ніна Язэпаўна ўзрушана цмокнула мяне ў шчаку і неяк разгублена прызналася, што не танцавала ўжо гадоў трыццаць...

На сустрэчы ў каледжы яна была ў цэнтры ўвагі - чытала вершы і пераклады, разам з навучэнцамі натхнёна спявала "Зорку Венеру" і "Калыханку маме".

Вярнуўшыся дахаты, Ніна Язэпаўна папрасіла дастаць з верхняй паліцы томік Сэнт-Экзюперы ў яе перакладзе і надпісала на развітанне: "…Дык няхай не развейваецца сардэчнае святло заўсёднага нашага сумоўя!"

А ўсяго праз дзень, 19 снежня, паэткі не стала. Але святло сапраўды не развейваецца. Яго выпраменьваюць надзвычай светланосныя вершы Ніны Язэпаўны, ім праменіўся Мацяшоўскі паэтычны фестываль, які ладзіўся ў Белаазёрску стараннямі дырэктаркі гарадской бібліятэкі Тамары Кузняцовай, і на які з'язджаліся госці з усёй Беларусі . А мне на душы святлее яшчэ і ад згадкі пра той незвычайны, самы запамінальны ў маім жыцці вальс у прыцíхлай кватэры. Вальс з Нінай Мацяш.

***Міхась Скобла.***

А вось сёлета прыкрай навіной стала адмена ўладамі літаратурна-песеннага фестывалю ў Белаазёрску "Бабіна лета з Нінай Мацяш", а тым болей, што сёлета 80-гадовы юбілей знакамітай паэткі.

На думку літаратара з Берасця, перадусім захаванне і папулярызацыя спадчыны паэткі залежыць ад яе прыхільнікаў і паплечнікаў:

– Тут праца вядома ж вялікая, і ў першую чаргу гэта будзе залежаць ад тых людзей, хто быў знаёмы блізка з ёю, хто захоўвае гэтую спадчыну. Усё яшчэ наперадзе. І я думаю, што вось аднаго імя Ніны Мацяш дастаткова, каб усведамлялі, што гэта наша асветніца. Не толькі Берасцейскай зямлі, а зямлі беларускай.

***Паводле СМІ.***





*Станіслаў Лорэнц*

# Віленскі альбом

## *(Вільня, творчая інтэлігенцыя, краёўцы)*

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Пазней, пасля Варшаўскага паўстання ў 1944 г., ён зрабіў для нас серыю партрэтаў. Пасля вайны ў Нацыянальным музеі Варшавы ён спецыялізаваўся на кансервацыі жывапісу. Жонка Казіміра Квяткоўскага кіравала балетнай школай. Яе юная вучаніца Міка (дзявочага прозвішча і поўнага імя не памятаю) вельмі спадабалася Казіміру. Урэшце Казімір развёўся і ажаніўся з Мікай. Калі мы прыехалі ў Вільню, яны ўжо былі разам. Міка была сімпатычнай, вельмі стройнай, жвавай, вясёлай і мела вялікі поспех, аб чым сведчыць выпадак з Дунікоўскім. Менавіта ў 1931 г. пяць скульптараў былі запрошаны прыняць удзел у конкурсе на помнік Міцкевічу. Аднойчы ў нядзелю мы сядзелі з вялікай кампаніяй сяброў у цукерні Рудніцкага на рагу вул. Міцкевіча і Кафедральнай плошчы. У цукерню са смехам ўварвалася Міка і сказала: "Уявіце, што са мной здарылася сёння раніцай. Пайшла у краму па булачкі і малако, а тут на вуліцы нейкі стары вырадак, маленькі, непрыгожы, назойлівы і з агіднай усмешкай, робіць мне бурныя прапановы. Я ледзь ад яго адчапілася". У гэты момант адчыняюцца дзверы, і ўваходзіць скульптар Дунікоўскі. Міка ўсклікае: "О, гэта той!".

У цукерні Рудніцкага мы амаль кожны дзень сустракаліся з Хопенам, Мікай і Казімірам Квяткоўскімі, Ямантам (старым халасцяком) і многімі іншымі сябрамі. Па вечарах часта хадзілі ў рэстаран гатэля "Брыстоль", дзе было значна танней, чым у Георга. Часам хадзілі і ў "Зацішша" па вуліцы Міцкевіча, "У Мацея" ці ў "Букет".

Адным з нашых блізкіх сяброў быў пейзажыст Браніслаў Ямант, які доўгі час маляваў Вільню, віленскія вуліцы і архітэктуру, пакуль не трапіў ва ўніверсітэт, а потым не стаў чыноўнікам Віленскага староства. Гэта не было непрыемным для мастака, бо тагачасны стараста Ішора быў вельмі культурным і добразычлівым чалавекам. У цукерні маўклівы і сардэчны Ямант заўсёды маляваў на папяроснай паперы, якую мы, вядома, бралі з сабой. Ён любіў маляваць і асабліва карыкатуры, Стэфана Нарэмбскага цікавіла не толькі гістарычная архітэктура і архітэктурная творчасць, але і віленскае мэблярства першай паловы XIX ст. Яго дачка, графік Бася Нарэмбска-Дэмбска-Казлоўская, пасля вайны была вельмі актыўнай у Торуні.

Такім чынам, гэта было асяроддзе віленскіх мастакоў, з якімі, як і з выкладчыкамі ўніверсітэта, я вельмі блізка пасябраваў падчас майго побыту ў Вільні. Афіцыйным актам гэтага сяброўства стала адкрыццё юбілейнай выставы Віленскага таварыства выяўленчых мастацтваў, пра што паведамляў віленскі друк: *"Учора* [1 чэрвеня 1930 г.] *а 1-й гадзіне дня ў патышкевіцкім палацы (на рагу Арсенальскай і Зыгмунтоўскай над Віліяй) адбылося ўрачыстае адкрыццё юбілейнай выставы Віленскага таварыства выяўленчых мастацтваў, якому сёлета спаўняецца 10 гадоў. Выставу адкрыў прэзідэнт таварыства Людамір Слядзінскі, які пасля кароткай прамовы падарыў спадару Рачкевічу цудоўную тэчку з арыгінальнымі эскізамі членаў Таварыства".*

Ужо ў першыя месяцы майго побыту ў Вільні завязаліся ад пачатку добрыя і сяброўскія, вельмі блізкія і асабістыя стасункі з двума выдатнымі прадстаўнікамі "краёўцаў", выхадцамі з абшараў былога Вялікага Княства Літоўскага, цесна звязанымі з гэтай зямлёй, якія падкрэслівалі асобнасць літоўскіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў.

Казімір Акуліч, дэпутат Сойму, рэдактар "Газеты Краёвай", а потым "Кур'ера Віленскага", юрыст, які вучыўся у Дэрпце і быў членам студэнцкай карпарацыі "Арконія", з'яўляўся вельмі ўраўнаважаным чалавекам. Ён дапамагаў мне ў маёй працы і заўсёды для мяне былі адкрыты старонкі яго газеты. На Акуліча ўвесь час люта нападала "Слова" Станіслава Мацкевіча. Падчас вайны рэдактар "Слова" апынуўся ў Лондане і пасля вайны быў міністрам аднаго з эміграцыйных урадаў. Я спаткаў яго каля 1970 г. у Лондане падчас майго побыту ў клубе "Белы Арол". Да мяне прыйшоў тады мой добры сябар дзяцінства Тытус Камарніцкі, і мы з ім размаўлялі да поўначы. У размове згадалася імя Мацкевіча, і Казімір сказаў мне: "Ведаеш, мы тут у эміграцыі паміруліся, ён мне нават спадабаўся, мы абодва з Вільні".

Другім "краёўцам", якога я сустрэў у той час, быў Людвік Хамінськi. Ён таксама належаў да маладой генерацыі. Старэйшыя "краёўцы" - гэта найперш галоўны віленскі масон, адвакат Вітольд Абрамовіч, які потым стаў сенатарам, потым быў вывезены на ўсход, і пра яго больш нічога не вядома. Важную ролю сярод іх адыгрывалі адвакат Браніслаў Кжыжаноўскі і Ян Пілсудскі, сярод тых, хто спачуваў, былі Станіслаў Лапацінскі, Аляксандр Мяйштовіч, Аляк-

сандр Лядніцкі, Аляксандр Хаміньскі (бацька Людвіка). З малодшых, акрамя Акуліча - прафесар Вітольд Станевіч, Мар'ян Касцялкоўскі які потым стаў міністрам сельскагаспадарчых рэформаў. Доўгі час ідэйным апекуном гэтай групы быў Юзаф Пілсудскі і побач з ім - Аляксандр Прыстар.

Прафесар Зыгмунт Юндзіл, таксама "краёвец", у сваіх успамінах, апублікаваных у лонданскай "Alma Mater Vilnensis", піша пра маладзейшых: *"Сярод іх я бачу Людвіка Хаміньскага, гарачага, амбітнага, тады яшчэ маладога чалавека тыпу "выбітнага палітычнага дзеяча", які па-сапраўднаму адчуваў шырокія народныя масы. Ён не шкадаваў сіл і працы, значную частку сваёй фартуны аддаваў выдавецкай працы, спрыяў развіццю польскай кнігі ў краі, друкаваў нелегальныя выданні, пракламацыі, бюлетэні і іншае. Шмат пісаў у дэмакратычных часопісах, урэшце, пасля Людвіка Абрамовіча, стаў рэдактарам "Газеты Краёвай"*. Калі ўвесну 1929 г. я пазнаёміўся з ім, Людвік Хаміньскі быў паслом у Сойм, членам партыі "Вызваленне", сябрам Станіслава Тугута. Меў двух сяброў, буйных абшарнікаў, прыхільнікаў зямельнай рэформы без кампенсацыі. Крыштаф Радзівіл, мой універсітэцкі сябар, калі я яму сказаў: "Дык пачні сам з падзелу маёнткаў паміж сялянамі", - адказаў: "Гэта было б глупствам. Усе маёнткі трэба падзяліць".

Так думаў і Люк (так мы звалі Людвіка Хаміньскага). Адразу пасля знаёмства ён грунтоўна пазнаёміў мяне з палітычнай канцэпцыяй "краёўцаў" і шмат размаўляў са мной на палітычныя і культурныя тэмы. Сваю друкарню ў Вільні ёг назваў "Люкс". Гэта была вельмі неабходная ў той час установа, тым больш, што шэраг выданняў, як, напрыклад, зборнікі вершаў віленскіх паэтаў, ён выдаваў за свой кошт.

Маю перад сабой "Горад пад аблокамі" (Вільня) Вітольда Гулевіча, на кнізе пазначана: "Выдаў і надрукаваў Людвік Хаміньскі, 1931". Вокладка Міхала Роўбы. Кніга аздоблена рэпрадукцыямі 14 графічных прац віленскіх мастакоў. Надрукавана было 700 стандартных асобнікаў і 25 асобнікаў на паперы ручной працы, кожны экзэмпляр з сваім нумарам, кшталту A-E-II-XX, з подпісам аўтара, выдаўца і мастакоўграфікаў. Надрукавана шрыфтам друкарні "Люкс" у Вільні, якая знаходзілася па адрасе вул. Партовая, 7.

Не памятаю ўжо ў якім годзе, Люк расказваў мне, што купка "краёўцаў" і іх сяброў стварыла неафіцыйны і незарэгістраваны клуб "Шумераў" ("Sumeryjczykow"), якія віталі адзін аднаго словамі "Sum, sum, sum" [20]. Збіраліся яны ў Бібліятэцы Урублеўскага, былым палацы Тышкевічаў. Ён паведаміў мне, што я таксама прыняты ў вільняне і магу лічыць сябе членам клуба "шумераў".

Друкарня "Люкс" імкнулася ўвесці ў Вільні сучасную эстэтыку друку і кнігі, сярод яе выданняў была і кніга Людвіка Абрамовіча "Чатыры стагоддзі віленскага кнігадрукавання 1525-1925 гг.", у "Люксе" друкаваліся творы Чэслава Янкоўскага, Гелены Ромер-Ачанкоўскай, Ванды Недзялкоўскай-Дабачэўскай, Людвіка Яноўскага, Вацлава Студніцкага, Тадэвуша Лапалеўскага, Яўгеніі Кабылінскай-Масееўскай і нават Станіслава Пшыбышэўскага, Эдварда Слоньскага і Бенедыкта Герца.

Працяглае мецэнацтва дорага каштавала Хаміньскаму (друкарня "Люкс", заснаваная ў 1918 г.). Таксама і яго маёнтак Ольшаў[21] не прыносіў прыбытку. Ён паставіў у Ольшаве вялікія сажалкі, але зрабіў гэта няўмела, і ўсіх малькоў з'елі шчупакі. А для гэтай справы Лук узяў у банку вялікі крэдыт.

Сам Ольшаў быў прыгожым палацавым цэнтрам, сядзібай вельмі культурных, са старымі традыцыямі абшарнікаў. З канца XVII ст. сядзіба знаходзілася ва ўласнасці роду Хаміньскіх. У пачатку XVIII ст. належала Людвіку Якубу Хаміньскаму герба Ліс, сыну Канстанціна Яна і Канстанцыі з Верашчакаў. Людвік быў старастам ашмянскім і пісарам вялікага літоўскага князя. Францішак Ксаверый Хаміньскі з'яўляўся апошнім ваяводам мсціслаўскім. Дзед Люка, Станіслаў, пасля заканчэння Віленскага ўніверсітэта ў 1824 г. паступіў у гвардзейскі Паўлаўскі полк. Даслужыўся да звання генерала. Быў губернатарам горада Коўна. Як уладальнік Ольшава, ён тройчы выбіраўся маршалкам шляхты Свянцянскага павета. Яго партрэт у капітанскай форме каля 1825 г. напісаў у Пецярбургу Валенты Ванькович. Гэты партрэт вісеў у Ольшаве ў сталовай сярод іншых фамільных партрэтаў. Пасля вайны быў перавезены ў Варшаву, і я купіў яго для Нацыянальнага музея. Цяпер ён знаходзіцца ў партрэтнай галерэі ў Вілянове.

Выдатным грамадскім дзеячам быў Аляксандр Хаміньскі, тата Люка, сын Станіслава і Эвеліны з Шчытаў. Быў дэпутатам Думы, дзе прадстаўляў кансерватыўны накірунак, затым членам Дзяржаўнай рады. У 1905 г. разам з сваёй жонкай Ядвігай з Горватаў заклаў у Ольшаве пачатковую школу для беларускіх дзяцей, у якой выкладанне рэлігіі вялося на польскай мове. Разам з прафесарам Пташыцкім выдаў так званы "Ольшаўскі кодэкс Хаміньскіх з XVI ст.", які захоўваўся ў фамільным архіве ў Ольшаве. Усебакова адукаваны чалавек, ён жыва цікавіўся культурнымі і грамадскімі справамі. Трэба дадаць, што ў Ольшаве мелася добрая бібліятэка ў некалькі тысяч тамоў.

Драўляны палац у Ольшаве датуецца другой

[20] Sum - лац. - Я; Sumeryjczyk - жыхар Шумера. - *Л. Л.*

[21] Маёнтак знаходзіўся каля дарогі з Свенцян да Ашмянаў і Вілейкі. - *Л. Л.*

паловай XVIII ст. Аднапавярховы, з ламаным дахам, з двухпавярховым калонным порцікам, пабудаваны цеслярамі ў выглядзе падковы ў "нямецкіх" традцыях (ці не івянецкіх?). Мураваныя крылы да палаца ў 1893 г. дарабіў архітэктар Тадэвуш Раствароўскі. У гэтых прыбудовах размяшчаліся гасцявыя пакоі, якія пры адсутнасці грошай у гаспадароў, можна было здаваць на лета для адпачынку. Сядзібны дом стаяў на ўзгорку над маляўнічым берагам ракі Страча. Вялікі парк на схілах пераварыўся ў сажалкі і лясы, пераважна хвойныя, дзе сярод пагоркаў ляжала шэсць азёр. Самае буйное з іх, Глубель, мела плошчу 55 га.

Для тых, хто адпачывае, у Ольшаве стваралася прыемная, прыязная і сямейная атмасфера. Я змог трапіць у Ольшаў толькі аднойчы ў ліпені. Тады мне расказалі, што па ініцыятыве пана Аляксандра для адпачываючых быў арганізаваны паказ жаночай моды апошняй чвэрці XIX ст., а можа і больш ранняй. У Ольшаве да таго часу захоўвалася калекцыя прыгожых сукенак. Аляксандр сказаў мне, што гэты вечар быў для яго вельмі важным.

Мая першая сустрэча з віленскімі пісьменнікамі адбылася 21 сакавіка 1929 г. на вечарыне віленскай паэзіі, якая адбывалася ў зале гімназіі імя Адама Міцкевіча.

Неўзабаве мы з жонкай Ірэнай былі на Літаратурнай серадзе, дзе абмяркоўвалася пытанне здабыцця для Звязу пісьменнікаў у Вільні так званай "Келлі Конрада" ў па-базыльянскіх мурах. Шматлікія намаганні грамадства па вяртанню з рук праваслаўнага духавенства гэтай "нацыянальнай святыні" рабіліся на працягу шэрагу гадоў. Шмат гадоў ішла безвынiковая цяжба аб правах уласнасці паміж праваслаўнай кансісторыяй і дзяржавай, якая вырашылася на карысць дзяржавы толькі ў 1927 г. Карыстальнікамі былога манастырскага будынка дзяржаўныя ўлады пакінулі праваслаўную семінарыю, Беларускую гімназію, Беларускае навуковае таварыства і Беларускі музей імя Яна Луцкевіча. Арандатары былі выдалены толькі з паўднёвай часткі першага паверха, дзе размяшчалася турма філарэтаў. Але не было прынята рашэння, што там павінна знаходзіцца, і частка будынка стаяла не адрамантаваная і пустая. Старшыня Віленскага Звязу пісьменнікаў прафесар Пігонь на згаданай Літаратурнай серадзе звярнуўся да мяне з просьбай перадаць памяшканне з "Келляй Конрада" пад сядзібу Звязу. Я адразу вельмі энергічна ўзяўся за справу, дамогся рашэнне ваяводы і пазыку на рамонт памяшканняў. Абнаўленне павінна было быць грунтоўным, бо ў 1867 г. расейцы перабудавалі ўсе будынкі скасаванага манастыра, для стварэння вялікіх памяшканняў знялі папярочныя сцены келляў і зруйнавалі скляпенні камеры і калідоры, якія захаваліся толькі часткова. Справа "Келлі Конрада", месцазнаходжанне якой было пад пытаннем з-за рэканструкцыі, тлумачаць даследаванне прафесара Юліюша Клоса ў 1921-1923 гг.[22]

Віленскія пісьменнікі атрымалі месца, памятнае не толькі з-за суда над філарэтамі. Увайсці на гэтую тэрыторыю можна было праз прыгожую браму ў стылі ракако (па адрасе вул. Вострабрамская, 9). Далей, пасярод вялікага двара стаяла праваслаўная царква св. Тройцы, заснаваны князем Канстанцінам Астрожскім у 1514 г. у гонар перамогі пад Оршай. Пасля пажару 1748 г. царкву перабудавалі, дадалі да яе дзве лёгкія вежы і пабудавалі вышэйзгаданую шыкоўную манастырскую браму, а таксама пабудавалі абодва крылы кляштара, якія існуюць і сёння - архітэктар Ян Крыштаф Глаўбіц. Падчас майго знаходжання ў Вільні мне ўдалося ўстанавіць, што гэты амаль невядомы раней архітэктар быў сапраўдным стваральнікам найвялікшых твораў барока і ракако ў Вільні і ваколіцах. Спраектаваў касцёл св. Кацярыны ў Вільні, перабудаваў інтэр'еры і аформіў цудоўныя алтары ў касцёле св. Яна, пабудаваў касцёл і кляштар у Беразвечы, перабудаваў касцёл св. Зоф'і ў Полацку і інш. Гэта было маё вялікае адкрыццё, заснаванае на знойдзеных архівах. Ужо ў Варшаве, у 1937 г., у выдавецтве Варшаўскага навуковага таварыства я апублікаваў дысертацыю, прысвечаную Глаўбіцу[23].

На першы паверх сядзібы Звязу пісьменнікаў трэба было ўваходзіць па шырокім калідоры, які цягнуўся па ўсёй даўжыні памяшкання. Адразу ад калідора направа была вялікая зала для пасяджэнняў з трыма вокнамі і невялікім подыюмам ля дальняй сцяны злева. Далей з калідора дзверы вялі ў вялікую двухаконную "Келлю Конрада", у якой працавала чытальня. У сцяне была ўмаравана таблічка з надпісам "Hic natus est..." Тут размяшчаўся сакратарыят Звязу, а пазней Віленскага аддзела Польскага турыстычнага таварыства.

Пасля ад'езду ў 1930 г. прафесара Пігоня з Вільні старшынём Звязу пісьменнікаў стаў Вітольд Гулевіч. Мы з Ірэнай па магчымасці хадзілі на ўсе літаратурныя серады. Але я ўжо мала што з іх памятаю.

У Гародні існавала вельмі актыўнае Таварыства сяброў літаратуры і мастацтва, у дзейнасці якога прымала ўдзел жонка прэзідэнта горада Маўрыцыя О'Браена дэ Ласі, уладальніка маёнтка Аўгустовак пад Гродна. На пасадзе прэзідэнта О'Браэн дэ Ласі быў ініцыятыўным, цікавіўся рэканструкцыяй Каралеўскага замка, будаўніцтвам бульвараў на Нёмане, імкнуўся падтрымліваць

[22] Пра "келлю Конрада" пісалі: Ant. Luckiewicz. Prawda o "celi Konrada". W setne rocznice procesu Filomatow. Wilno, 1923.; Antoni Luckiewocz. Z powodu sporu o "Cele Konrada" // Preglad Wilenski. 1924, № 6. S. 5-7.: Erka [Ул. Талочка]. Prawda o celi Konrada // Preglad Wilenski. 1924, № 2. S. 4-5. (Пераклад гэтых артыкулаў Луцкевіча і Талочкі, гл: Спрэчкі пра "Келью Конрада" ў па-базыльянскіх мурах Вільні // Наша слова. № 48 (1563), 2 снежня 2021.) - *Л.Л.*

[23] Stanislaw Lorentz. Jan Krzysztof Glaubitz architekt wilenski XVIII w. : materialy do biografii i tworczosci. Warszawa, 1937.

актыўнае культурнае жыццё. Яго жонка Надзея з рускіх князёў Друцкіх сама была пісьменніцай. У яе меліся блізкія адносіны з Зоф'яй Налкоўскай[24], якая жыла ў Гродна разам з сваім мужам Юрам-Гажэхоўскім. Друцкая ганарылася тым, што ў 1930 г. Налкоўская ўвяла яе ў ПЭН-клуб. Вітольд Гулевіч быў у блізкіх стасунках з мужам і жонкай О'Браен дэ Ласі і наведваў іх у Аўгустоўку. Я добра ведаў захавальніка Гродзенскага музея ў замку Юзафа Ядкоўскага. Гарадзенскае таварыства прывозіла з Варшавы вядомых лектараў і падтрымлівала сувязь з Вільняй.

У сваім выступе ў Літаратурнай серадзе я прадставіў праблему выратавання руін сярэднявечных замкаў і абмеркаваў распачатыя работы ў Троках, Крэве, стан руін у Каралеўскіх Медніках, работы на замку ў Навагрудку і рэканструкцыю замка ў Міры, а таксама праекты, звязаныя з руінамі на Замкавай гары ў Вільні. У дыскусіі пасля майго выступу прынялі ўдзел Людамір Сляндзінскі, Хэлена Ромер-Ачанкоўска, Ежы Хопен, Станіслаў Яроцкі і праф. Рыдзеўскі. Маю інфармацыю ўспрынялі з поўнай ухвалой.

Адразу пасля ўступлення на пасаду ў пачатку 1929 г. я атрымаў "ганаровую картку" аб прыёме ў сябры тэатра "Рэдута"[25] на Пагулянцы і ў Польскі Тэатр у будынку "Лютня" на вул. Міцкевіча. Мы вельмі часта хадзілі ў абодва тэатры, асабліва на Пагулянку. Францішак Рыхлоўскі, які кіраваў Польскім тэатрам з 1920 г., адзначыў у лютым 1928 г. дваццаць пяць гадоў тэатральнай працы. У камісію па святкаванні гэтага юбілею пад патранатам ваяводы Рачкевіча ўвайшлі, між іншым: Фердынанд Рушчыц, Юліюш Остэрва, Чэслаў Янкоўскі, мэр горада Юзэф Фалееўскі, Хелена Ромер-Ачанкоўская, Ежы Рэмер. Людвік Сольскі напісаў уступ да памятнай кнігі "Юбілейны вянок Францішка Рыхлоўскага". Тэатр Рыхлоўскага можна было назваць народным тэатрам бо яго праграмная дзейнасць мела камерцыйны характар.

У сярэдзіне 1929 г. на Пагулянцы адбыліся прынцыповыя змены ў сувязі з вяртаннем "Рэдуты" ў Варшаву. Дырэктарам тэатра стаў Аляксандр Зельвяровіч.

А. Зельвяровіч абапіраўся на маладых - пасля каманды маладых рэдутаўцаў, была каманда з лепшых маладых выпускнікоў Варшаўскай тэатральнай школы. Ён падабраў каманду вельмі добрых маладых акцёраў з такімі зоркамі, як Ірэна Эйхлераўна і Мар'ян Выжыкоўскі, Цяцерскі і Малынічаўна. А паколькі ён запрашаў на гасцявыя выступленні і вядомых артыстаў, узровень тэатральных пастановак быў вельмі высокі.

18 лістапада 1929 г., як паведамляў "Кур'ер Віленскі", *"па ініцыятыве бурмістра горада пана Фалееўскага ў Ратушы адбылася нарада, на якой абмяркоўваўся рэпертуар і ранейшая дзейнасць дырэктара Зельвяровіча (віца-бурм. Чыж, праф. Рушчыц, Лорэнц, праф. Эрэнкройц, Г. Ромер-Ачанкоўска і некаторыя іншыя) выслухалі даклад дырэктара Зельвяровіча, які, да шчырага задавальнення аўдыторыі, запэўніў, што, насуперак песімістычным прагнозам, наведвальнасць абодвух тэатраў вельмі добрая* [Зельвяровіч заняў і "Лютню"]".

У верасні 1930 г. з намі адбылася даволі дзіўная прыгода. Была ў нас вельмі добрая маладая служанка Польця, якая паходзіла з вельмі беднай вёскі Браслаўскага павета, амаль на мяжы з Латвіяй. Гэта была яе першая служба ў горадзе. Яна расказала нам пра цяжкае становішча сваёй сям'і, пра тое, як зусім маленькай дзяўчынай ёй давялося выехаць на сезонныя работы ў Латвію, на т. зв. "саксы". Расказвала, як дрэнна ставіліся багатыя латышскія сяляне да бедных рабочых з Польшчы.

Неяк у верасні мы збіраліся на вялікую вечарыну, вярнуцца павінны былі толькі позна ўвечары. У Ірэны было пры сабе больш за тысячу злотых і баючыся згубіць іх, яна вырашыла пакінуць грошы на захаванне ў Польці. Вярнуўшыся дадому, мы адразу леглі спаць. Калі ўсталі раніцай, Польці не было дома, і не было невядома, чаму яна не прыгатавала сняданак, нічога не купіла і чаму кудысьці сышла, нічога не сказаўшы нам. Я пайшоў у кабінет, а Ірэна чакала. Аднак прайшло некалькі гадзін, а Польці ўсё не было. Таму Ірэна, заклапочаная, пайшла ў паліцэйскі ўчастак, дзе праверыла, што Польця не стала ахвярай нейкага здарэння. Паколькі Ірэна настойвала на тым, каб паліцыя пачала шукаць Польцю, у яе спыталі, колькі ёй гадоў. На адказ Ірэны, што яна маладая дзяўчына, сказалі: "Не хвалюйся, абавязкова знойдзецца, з маладымі бывае". Але Ірэна не паддалася, таму ў яе пачалі пытаць пра акалічнасці знікнення. Пасля таго, як Ірэна расказала пра грошы, паліцыянты змянілі сваё меркаванне: "Так, гэта іншае, ёсць падазрэнні ў крадзяжы, і таму мы прымаем вашу заяву". Ірэна запратэставала, яна казала што не падазрае Полцю ў крадзяжы, але паліцыянты аформіла афіцыйны пратакол.

Нечакана за некалькі гадзін да абеду (мяне яшчэ не было дома) з'явілася Польця ў слязах і прызналася Ірэне, што яна ноччу ўцякла з дому, бо з ёй здарылася няшчасце. У той вечар, калі яна гатавала абед, у руцэ яна трымала грошы, і грошы намоклі. Хацела іх высушыць, паклала на бляху на кухні, і якраз Ірэна паклікала яе. Яна пабегла да гаспадыні, а калі вярнулася на кухню, то ўбачыла, што грошы згарэлі. Ноччу, пасля нашага вяртання, з роспачы, яна паляцела ў горад, і як толькі адчынілі сабор (мы жылі побач), яна ўвайшла ў касцёл і

[24] Зоф'я Налкоўская (1884 - 1954) - польская пісьменніца. Скончыла Варшаўскую прыватную гімназію (1901). У 1922-1927 гг. жыла ў Гародні, была куратарам патранату (апекі) вязьняў гарадзенскай турмы, дапамагала зняволеным. Янка Брыль пераклаў на беларускую мову асобныя яе апавяданні. - *Л. Л.*

[25] Рэдута (Reduta) - эксперыментальны тэатр-лабараторыя, існаваў з 1919 па 1939 гг. У 1925 г. тэатр з Варшавы пераехаў у Вільню, размяшчаўся ў тэатры на Пагулянцы, у 1931 г. вярнуўся ў Варшаву. - *Л. Л.*

ўвесь час сядзела там, малілася і плакала, пакуль не вырашыла вярнуцца і расказаць усё. Мы паверылі, што такое няшчасце магло здарыцца з гэтай простай дзяўчынай, і змірыліся з такой сумнай стратай грошай. Да Польці мы па-ранейшаму ставіліся сардэчна.

Праз некаторы час, аднак, прыйшоў выклік з раённага суда: "…Апалоніі Гадзінаўна, якая жыве ў Вільні, вул. Маставая 3 м. 24 з'явіцца ў адпаведнасці з арт. 592 і 834 УПК 18 кастрычніка 1930 г. на 9.00 на пасяджэнне судовай калегіі па крымінальных справах Віленскага акруговага суда для дачы тлумачэнняў па справе абвінавачання яе па арт. 574 КК".

Я адразу пайшоў у суд, каб патлумачыць, што мы зусім не абвінавачваем Польцю і просім адмяніць справу. Але мне растлумачылі, што гэта не мы, а пракурор выстаўляе абвінавачанне на падставе паліцэйскага пратаколу і справу нельга спыніць.

Усхваляваныя мы звярнуліся да нашага сябра Станіслава Вяслаўскага, які быў не толькі музыкам, але і юрыстам, каб ён абараніў Польцю ў судзе. Зразумела, ён ахвотна і самааддана пагадзіўся.

Справа спалення грошай стала вядомай на ўсю Вільню і набыла адценне гумарыстычнай сенсацыі. Вітольд Гулевіч даслаў нам выразку з газеты пад назвай "Вогнетрывалыя банкноты: праф. Шурып з Цюрыху вынайшаў і ўдасканаліў спосаб вырабу непарушных і вогнеўстойлівых банкнот..." з з допісам ад сабе: "Для суцяшэння сужэнцам, якія пакутуюць".

Між тым, за некалькі дзён да суда справа набыла зусім іншы абарот. Польця з адчайным плачам кінулася да Ірэны ў ногі: "Спадарыня, вы так добра да мяне ставіцеся, і я не магу больш так жыць, таму што тыя грошы скрала я. Калі вы далі мне столькі грошай, я не вытрымала. Вось 950 злотых, бо на сяло бацькам я ўжо паслала 50 злотых".

Мы пагадзіліся з Вяслаўскім, што ў судзе трэба будзе раскрываць праўду і абарона павінна быць іншай.

Акруговы суд размяшчаўся ў вялікім будынку на Лукішскай плошчы. Справа праходзіла ў вялікай судовай зале. Я замовіў два таксі. У першай з вул. Маставой у суд ехала Ірэна з Польцяй, у другім - я і мама. Зала суда была поўная. Польцю пасадзілі на лаву падсудных, мы сядзелі ўтрох у першым радзе. Напэўна, не толькі публіка, але і сам суд крыху пацешыўся гэтым выпадкам, бо ў залу прыйшоў нават наш сябар, старшыня суда, а таксама разам з ім некалькі суддзяў, якія афіцыйна ў працэсе не ўдзельнічалі. Вяслаўскі выступіў з прыгожай прамовай. Суд вынес прысуд: некалькі месяцаў ці год з адтэрміноўкай на два гады. І ў гэты момант Польця не па-людску закрычала: "Пані, ратуйце мяне, мяне хочуць павесіць на два гады". А далей усё пайшло зусім нефармальна. Ірэна падбегла да лавы абвінавачаных і трымала Польцю за рукі, Вяслаўскі яе суцяшаў. … Вярталіся на дзвюх брычках. Я падумаў пра Ляльку Пруса. Польця, яшчэ нейкі час засталася з намі. Але потым яна сказала нам, што хоча вярнуцца ў вёску.

У Ірэны былі вялікія абавязкі па гаспадарцы, да таго ж мама часта прыязджала да нас надоўга, па чарзе прыязджалі яе сёстры з Варшавы. У нас заўсёды была адна ці дзве служанкі, якія дапамагалі жонцы, бо мы вялі вельмі ажыўленае грамадскае жыццё. Ірэна з самага пачатку ўзяла на сябе шматлікія грамадскія абавязкі. Спачатку яна ўвайшла ў склад Таварыства "Сем'і чыноўнікаў", потым узначаліла секцыю ўправы гуртка пры Ваяводскім упраўленні, затым стала членам управы "Камітэта летніх антысухотных лагераў для дзяцей", стала членам праўлення "Таварыства заахвочвання народнай творчасці ў Вільні", а таксама ўступіла ў "Працоўны звяз жанчын", дзе асабліва клапацілася пра арганізацыю дзіцячых ясляў на Кальварыйскай, 69. Калі ў 1931 г. быў створаны "Камітэт выратавання Віленскай базылікі", жонка ўвайшла ў склад жаночага гуртка і актыўна арганізавала мерапрыемствы. У жаночыя арганізацыі часам збіралася на кватэры біскупа Міхалкевіча ў вул. Замкавая, 4.

21 студзеня 1931 г. прафсаюз польскіх пісьменнікаў у Вільні і Сіндыкат віленскіх журналістаў арганізавалі 116-ю Літаратурную сераду, прысвечаную творчасці віцапрэзідэнта Звязу пісьменнікаў, вядомай грамадскай дзяячкі і пісьменніцы Гелене Ромер-Ачанкоўскай у гонар 25 гадоў яе літаратурнай і публіцыстычнай працы.

Увосень 1930 г. я пачаў разглядаць магчымасць стварэння ў Вільні Музея сучаснага мастацтва, які б прадстаўляў сучаснае віленскае мастацтва на фоне тагачаснага польскага мастацтва. Мая ініцыятыва сустрэла моцную падтрымку віленскіх мастакоў. Міністэрства веравызнанняў і народнай асветы вітала гэтую ініцыятыву, а дырэктар Дзяржаўных мастацкіх калекцый, др. Альфрэд Лаўтэрбах паабяцаў перадаць у дар нашаму музею частку карцін выдатных сучасных мастакоў, галоўным чынам з Варшавы і Кракава.

На пачатку сакавіка 1931 г. быў створаны арганізацыйны камітэт Музея, у які ўвайшлі выканавец абавязкаў ваяводы Стэфан Кіртыкліс, стараста горада Фалееўскі, Рушчыц, Сляндзінскі, Хопен і я. Было вырашана, што пакуль музей будзе месціцца ў занядбанай вялікай кардэгардыі палаца Рэчы Паспалітай, а пасля рэстаўрацыі пераедзе ў гістарычны будынак былой Віленскай ратушы. Арганізатары жадалі, каб музей: 1) меў пастаянную экспазіцыю з асаблівым акцэнтам на мастакоў з Вільні, 2) арганізоўваў часовыя выставы.

Урачыстае адкрыццё Музея сучаснага мастацтва ў былой кардэгардыі ў двары палаца РП адбылося 7 чэрвеня 1931 г. Аднак, нягледзячы на падтрымку канцэпцыі дырэктарам дэпартамента мастацтваў Міністэрства веравызнанняў і народнай асветы Уладзіславам Скочыласам і перадачы на захоўванне 20 карцін найвыдатнейшых мастакоў таго часу, справа не дайшла да перадачы для музея адноўленага будынка старой Ратушы. Музей існаваў, але фактычна яго праца замерла, і ён не разгарнуў сур'ёзнай дзейнасці.

***Пераклад і каментары Леаніда Лаўрэша.***

# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *У краіне індзейцаў: Грынкевіч, Карпенка, Пратасавіцкая, Шагал; Ніна Мацяш і іншыя перакладчыкі "індзейскага"*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-38 (53-90) за 2023 г.)*

20.09.2023 г. споўнілася б 80 гадоў **Ніне Мацяш** (1943-2008). І гэта служыць нам нагодай успомніць не толькі яе і яе пераклады, але і некаторыя іншыя з найбольш важных перакладаў на беларускую мову мастацкіх твораў - 1) цалкам прысвечаных індзейцам; 2) іншых яскрава адметных па тых ці іншых прыкметах.

Імя Ніны Мацяш, безумоўна, знакавае: яе пераклад кнігі Жана Аліўе быў першай ластаўкай у катэгорыі асобных выданняў пазнавальнай літаратуры пра індзейцаў не толькі на беларускай мове, а і на любой у Беларусі за ўсе стагоддзі, і прыцягнуў увагу першых індзеяністаў - найбольш Берасцейшчыны, Гарадзеншчыны і Гомельшчыны.

Гэта было важнай падзеяй для беларускай індзеяністыцы - якая ў 1973 г. складалася толькі з першых фактаў выразнай цікавасці ў некаторых з дзяцей, уключаючы - не без гэтага - вырыванне старонак, выразанне фрагментаў старонак з бібліятэчных экзэмпляраў адпаведных кніг. Колькі з 17 тыс. экзэмпляраў беларускага перакладу кнігі Жана Аліўе "У краіне індзейцаў" пацярпела такім чынам - ніхто ўжо не дазнаецца. Але мы ведаем, што вядомая паэтэса Ніна Мацяш, у якой на пэўным этапе была і думка перакласці штосьці з А. Фідлера, у патрэбны час атрымала заказ на пераклад гэтага выдання, у выніку чаго беларускія дзеці ўзбагаціліся ведамі пра індзейскі свет: *"Гэта не толькі мастацкі расказ пра жыццё паасобных плямёнаў, а і строга дакументальныя звесткі пра некаторыя з'явы, розныя бакі жыцця. Своеасаблівым "дапаможнікам для гульні ў індзейцаў" могуць быць знакі індзейскай пісьменнасці і табліца "бязмоўнай размовы", у якой розныя спалучэнні пальцаў азначаюць асобныя словы і паняцці".*

Кніга Жана Аліўе (Jean Ollivier (1925-2005), "Au pays des Indiens", 1966) выйшла ў СССР толькі ў Менску пабеларуску (1973), але мела пэўны рэзананс і за межамі Беларусі (індзеяністка з Гародні А. Касценка перакладала яе на рускую мову для карыстання сябрамі ў іншых рэспубліках).

Мы пісалі Ніне Іосіфаўне 24.02.1988 г.:

*"У краіне існуе даволі шырокі індзеяніцкі рух; індзеяністаў на Беларусі, вядомых нам, да 30 чалавек. У тым ліку адзін у Бярозе і яшчэ адзін - з Бярозы, які зараз жыве ў Мінску (найбольш актыўныя ў індзеяністыцы*

Паважаная Ніна Іосіфаўна !

Вельмі доўга прыйшлося змагацца з нерашучасцю перш чым напісаць, але падзеі апошніх месяцаў падштурхнулі, нарэшце, узяцца за ліст да Вас. Я і мае сябры - індзеяністы, сябры індзейцаў і даследчыкі іх гісторыі, культуры і г.д. У краіне існуе даволі шырокі індзеяніцкі рух; індзеяністаў на Беларусі, вядомых нам, да 30 чалавек. У тым ліку адзін у Бярозе і яшчэ адзін - з Бярозы, які зараз жыве ў Мінску (найбольш актыўныя ў індзеяністыцы гады ён правеў на Брэстчыне, і Вы ведаеце яго асабіста: гэта Сяргей Кнырэвіч).

Пішам Вам, разлічваючы на Вашу падтрымку. Індзейцы ў Вашым жыцці, як нам здаецца, займаюць не апошняе месца: кніжку Аліўе Вы перакладалі, напэўна, тыдні, а то і месяцы.

Беларускія індзеяністы вырашылі стварыць свае рэспубліканскае таварыства. Зараз ініцыятыўная група рыхтуе ўсё да ўстаноўчага з'езда, які адбудзецца летам.

Мы звяртаем увагу на кожнага чалавека, хто што-небудзь сказаў або напісаў пра індзейцаў, хто зрабіў што-небудзь "індзейскае". Вы ж вядомы нам не толькі па выключнаму для Беларусі перакладу. Некаторым з нас трапляліся таксама артыкулы з подпісам "Н.Мацяш" і інтэрв'ю (па словах Кнырэвіча), у якіх згадваліся індзейцы.

Пераклады і публікацыі - гэта якраз і ёсць тыя дзве сферы, у якія б Вы маглі, пры адчуванні неабходнасці падтрымаць нас, унесці дадатковы індзеяніцкі ўклад. Існуе шэраг надзвычай цікавых і вартых для перакладу на беларускую мову рэчаў, напісаных на французскай і польскай мовах. З'яўленне іх на паліцах магазінаў і бібліятэк - літаратура пра індзейцаў заўседы карысталася папулярнасцю - магло б выклікаць сапраўдны "бум" цікаўнасці да індзеяністыкі і садзейнічала б адначасова папулярызацыі (што зробіш, прыходзіцца ўжываць гэткае слова) мовы.

Нам вельмі хацелася б пераканаць Вас у вялікай карысці звароту да "індзейскай" тэмы. Наша мэта - пашырыць аб'ем інфармацыі пра індзейцаў у рэспубліцы. Зразумела, што акрамя гэтага мы маем і іншыя напрамкі дзейнасці.

Як Вы ацэньваеце нашу ініцыятыву? Ці патрэбны Вам падрабязныя растлумачэнні, каб выказацца ў нашу падтрымку? Калі б мы ведалі, што можам сабе гэта дазволіць, былі б вельмі шчаслівы прапанаваць Вам стаць ганаровым членам нашага таварыства.

24.2.1988, Гомель Алесь Сімакоў

***Letter to writer Nina Matsiash 1988-02-24***

*гады ён правеў на Брэстчыне, і Вы ведаеце яго асабіста: гэта Сяргей Кнырэвіч).*

*Пішам Вам, разлічваючы на Вашу падтрымку. Індзейцы ў Вашым жыцці, як нам здаецца, займаюць не апошняе месца: кніжку Аліўе Вы перакладалі, напэўна, тыдні, а то і месяцы.*

*Беларускія індзеяністы вырашылі стварыць сваё рэспубліканскае таварыства. Зараз ініцыятыўная група рыхтуе ўсё да ўстаноўчага з'езда, які адбудзецца летам.*

*Мы звяртаем увагу на кожнага чалавека, хто што-небудзь сказаў або напісаў пра індзейцаў, хто зрабіў што-небудзь "індзейскае". Вы ж вядомы нам не толькі па выключнаму для Беларусі перакладу. Некаторым з нас траплялiся таксама артыкулы з подпісам "Н. Мацяш" і інтэрв'ю (па словах Кнырэвіча), у якіх згадваліся індзейцы.*

*Пераклады і публікацыі - гэта якраз і ёсць тыя дзве сферы, у якія б Вы маглі, пры адчуванні неабходнасці падтрымаць нас, унесці дадатковы індзеянісцкі ўклад. Існуе шэраг надзвычай цікавых і вартых для перакладу на беларускую мову рэчаў, напісаных на французскай і польская мовах. З'яўленне іх на паліцах магазінаў і бібліятэк - літаратура пра індзейцаў заўсёды карысталася папулярнасцю - магло б выклікаць сапраўдны "бум" цікаўнасці да індзеяністыкі і садзейнічала б адначасова папулярызацыі (што зробіш, прыходзіцца ўжываць гэткае слова) мовы".*

Мы прапанавалі Ніне Іосіфаўне стаць ганаровым членам нашага таварыства, ганаровым яно магло быць і ў сувязі з яе жыццём у інвалідным крэсле. Прапанову яна не прыняла і якраз з аргументам, што ўклад павінен быць не адным імем і не з прычыны перакладу адной кнігі, а больш істотны. Яна шчыра адказала, як ацэньвае сябе ў індзеяністыцы. Але мы ведаем з іншых крыніц, што ў яе быў высокі ўзровень не толькі прынцыповасці, але і эмпатыі.

Выданне Аліўе было ў рэчышчы ўзмацнення цікавасці да індзейцаў як дзяржаўнай палітыкі СССР, але мы думаем, што працаваць над перакладам Ніне Мацяш было і проста прыемна.

Яна пераклала таксама "Індзейскую сентэнцыю" Роланда Бальцара, пераклала або мела нейкае іншае дачыненне да кніг "з індзейцамі" або "каля індзейцаў": А. дэ Сент-Экзюперы "Планета людзей" (1984) і "Маленькі прынц" (1989), навелы Гі дэ Мапасана (1987), зборнік Л. Кастэнка (1989). Яна напісала тэлесцэнарый пра творчасць Р. Кента "Гэта я, госпадзі" (пастаўлены ў 1980).

Другая па значнасці падзея ў галіне перакладу - збеларушванне Аркадзем Куляшовым знакамітай паэмы

12 сакавіка, 88
Белаазёрск

Дарагі Алесь!

Даруйце, калі ласка, але я не бачу ніякай неабходнасці ва уласным удзеле, уступленні ў таварыства індзеяністаў. Пераклад адной кнігі — занадта дробная падстава для гэтага. Быць членам вашага таварыства азначае працу ў ім. А я і гэтага абяцаць не магу. Хоць вельмі даўно была думка перакласці кнігі Фідлера для беларускіх дзяцей. Але ўсё наслойваюцца іншыя справы,

**Letter from Nina Matsiash 1988-03-12 p. 1 of 2**

і бог ведама ці калі змагу я спраўдзіць гэтае даўняе жаданне. Прынамсі, не ў бліжэйшыя шэсць гадоў...

Так што — выбачайце, калі ласка.

Хай будзе ў Вас усё добра!

Ніна Мацяш

***Ліст ад Ніны Мацяш 1988-03-12 p. 2 of 2***





Генры Лангфела "Спеў аб Гаяваце". Яго пераклад выклікаў вялікі і станоўчы рэзананс і стаў адной з падстаў для прысуджэння паэту-перакладчыку Дзяржаўнай прэміі, а лаўрэата, на думку В. Бечыка, натхніў на новыя пошукі ("Куляшоў асабліва многа перакладаў, калі ў яго адбываліся нейкія творчыя перагрупоўкі, калі шукалася і паступова выспявала новая якасць"). Факт перакладу паэмы згадваецца ў многіх выданнях, уключаючы энцыклапедыі і падручнік па беларускай літаратуры для агульнаадукацыйных школ (на жаль, складваецца ўражанне, што аўтары або рэдактары і карэктары таго падручніка не ведалі, што аўтар паэмы не "Лангфел", а Лангфела або Лангфэла - з перадапошнім складам поўнай аднароднасці не было).

Ацэнкі Я. Семяжона ("І пах, і колер, і трываласць"), В. Небышынца ("Вам, хто любіць слухаць казкі, галасы легенд далёкіх"), А. Шаўні ("Шчодрыя скарбы"), В. Нікіфаровіча ("Радость, пережитая дважды"), М. Гамолкі "Тры кнігі перакладаў") былі "радасныя". Падрабязна прааналізаваў пераклад у дысертацыі "Аркадзь Куляшоў - перакладчык" М. Кенька (тэму атрымаў у 1973 г., навуковы кіраўнік - У. І. Гніламёдаў, абараніў у 1978 г.). Яна была перапрацаваная ў кнігу "Майстэрства Аркадзя Куляшова - перакладчыка" (1983).

Ва ўсім багацці водгукаў мы знайшлі тэзісы, што пераклад І. Буніна лепшы за арыгінал, а куляшоўскі - яшчэ лепш, бо ён - лепшы пераклад паэмы на мовы славянскага свету.

Прымаючы пад увагу такія меркаванні, нельга забываць пра надзвычай станоўчыя ацэнкі бунінскага перакладу, з беларусаў - Ю. Гаўруком, які сам быў перакладчыкам з англійскай: *"Пераклад І. Буніна "Песні пра Гаявату" Г. Лангфела на рэдкасць блізкі да арыгінала і разам з тым настолькі лёгкі, пявучы, празрысты, пазбаўлены ўсялякіх нацяжак, што зусім не адчуваецца форма, тады як у арыгінале чатырохстопны харэй з ненаціскным канчаткам гучыць не заўсёды натуральна. Адчуваецца, што аўтару часамі прыходзілася заганяць словы ў гэты нязвычны для англійскай мовы памер"*.

Разам з "У краіне індзейцаў" і "Гаяватай" найбуйнейшым прарывам у галіне мастацкага перакладу стала выданне рамана "Апошняя мяжа" Говарда Фаста. Пераклад мастацкага пераказу гісторыі паходу чаенаў (шаенаў), выкананы У. Шахаўцом, выйшаў у 1957 г., калі аўтар, раней вялікі сябра савецкай краіны, ужо быў на "рэнегацкіх" пазіцыях. Артыкулы пра творчасць Г. Фаста і рэцэнзіі на раман з'яўляліся ў беларускім друку ўжо пасля першых публікацыі яго ў Маскве (на рускай ў 1948



ПРОЛОГ.

Тысяч двадцать лет назад племена, которые заселяли бескрайние сибирские просторы, перебрались через узкий морской пролив, что отделяет северо-восток Азии от Америки.

Так было положено начало новому великому переселению, которое продолжалось много тысячелетий.Об этих племенах, народах, кочевницких ордах - или как их назвать?- ученые не знают ничего.

Они только предполагают,что первые переселенцы все время продвигались на юг, где больше солнца и земля лучше родит.

Потом поток людских рек стал постепенно продвигаться вширь, расподаться на рукава и, как венами, где гуще, где реже, покрывать широкий четырехугольник, ограниченный Великими озерами, Скалистыми горами, Атлантическим побережьем и Мексиканским заливом.

Уцелели остатки следов только тех людей, которые жили здесь около трех тысяч лет назад.

На юго-западе, штат Новая Мексика, расцвела так называемая кочезийская культура, которая добилась довольно больших успехов в выращивании кукурузы и обводнении полей.После она пришла в упадок - уступила место удивительной культуре пуэбло - пуэбляне с большим мастерством возводили на обрывистых скалах целые города и поселки и украшали свои кива /круглые сооружения-святилища/ и намогильные памятники глиняными фресками необычайной красоты...

На богатых дикими животными равнинах северо-востока, штаты Огайо и Миссисипи, потомки кочевницких племен переходили к оседлой жизни, строили себе жилища, занимались охотой и выращиванием кукурузы и бобов.

Некоторые историки назвали эти племена телегвами и считают, что именно они являются создателями необычайных глиняных сооружений, которые еще и в наше время находятся в районе между Флоридой и Великими озерами.Оборонительные сооружения и гробницы-крепости достигают порой внушительных размеров.Например, "пирамида Кохокия" в штате Иллинойс имеет 360 м длины, 230 м ширины и 30 м высоты /по другим данным, эта пирамида, или маунд, имеет основание площадью 350X210 кв. м/.

В удивительных цитаделях неугомонные археологи нашли не только вылепленных из глины змей, птиц, черепах, но и по-мастерски сделанную красочную посуду, украшения, глиняные трубки, обработанные раковины, драгоценные камни.

***Жан Оливье. Пер. с бел. Jean Ollivier. In the country of the Indians. Prologue, pt. 1. Translated into Russian (from the Belarusian translation from the French by Nina Matsiash) by Alena Kastsenka (Brysh)***



***Жан Оливье. В стране индейцев. Пролог. Пераклад з беларускай А. Касценка (Брыш) - з перакладу з французскай на беларускую Н. Мацяш. Малюнак перакладчыцы.***





і англійскай 1949 гг.) - калі яго можна было толькі хваліць. Дакладнай карціны, што адбывалася з экзэмплярамі "Апошняй мяжы" пасля пачатку рэзкай крытыкі аўтара ў савецкім друку, мы не маем, але беларускамоўная кніга цяпер - надзвычайная бібліяграфічная рэдкасць.

Як і главы са "Спеву аб Гаяваце", непасрэдна з мовы арыгінала было перакладзенае Н. Белякоўскай апавяданне Анры Барбюса "Крывавая крыніца", дзе *"амерыканскія мільянеры пры дапамозе наёмных забойцаў знішчаюць індзейскае племя, на зямлі якога былі адкрыты багатыя залежы нафты. Бізнес, паказвае пісьменнік, непасрэдна змыкаецца з бандытызмам"*. Першыя рускія публікацыі гэтага твора з'явіліся ў тым жа годзе, што і французская (парыжская), - у "Огоньке" і кнігах Барбюса "Моровое поветрие" (Изд-во ЦК МОПР СССР) і "Правдивые истории", але першае і адзінае беларускае кніжнае выданне 1929 г. мела больш дакладную назву "Розныя факты".

"Апошні з магікан" Фенімора Купера з'явіўся з двух перакладах - у 1940 і 1996 гг. (Я. Маўр і Г. Далідовіч), "Зверабой" - у 1997 г. (Я. Саламевіч).

У 1990 г. "Піянер Беларусі" надрукаваў раздзелы з аповесці Эрнэста Сетана-Томпсана "Маленькія дзікуны", а таксама "індзейскую грамату", - гэта спадабалася юным беларусам.

Раман "Паляўнічы" Джэймса Олдрыджа, у якім значнае месца адведзенае жыццю аджыбвэ (аджыбуэяў), выдадзены па-беларуску ў зборніку выдавецтва "Юнацтва" ў 1996 г., пераклаў яго Максім Валошка (Анатоль Бутэвіч).

Алесь Асташонак, які пражыў усяго 50 гадоў, застаецца ў нашай памяці дзякуючы перакладу рэдкага спалучэння "індзейскіх" твораў: навел "Меланхалічны індзеец" Філіпа Фрэно і "Індзейскі пасёлак" Эрнэста Хэмінгуэя, а таксама прамовы правадыра Чырвонай Накідкі (Сагаеваты) (1993-1994).

Аляксей Зарыцкі пераклаў славуты верш аўстрыйскага паэта Нікалаўса Ленаў "Тры індзейцы" (1977) (знаёмства з творчасцю аўстрыйскага паэта адбылося ў перакладчыка да вайны: томік Ленаў падарыў яму Змітрок Астапенка) і верш ніжне / сербска-лужыцкага паэта Мата Косыка "Індыянка" (1969), пазнаёміўшы беларускага чытача і з акалічнасцямі іх стварэння ў нарысах пра аўтараў, якія жылі ў Злучаных Штатах і адлюстравалі ў першым выпадку пратэст супраць прыгнёту індзейцаў, больш жорсткага, чым "негерманскага" насельніцтва Аўстра-Венгрыі, у другім - настальгію па Лужыцы, калі індыянка нагадвае паэту лужычанку.

Калі пераклад Нінай Мацяш кнігі "У краіне індзейцаў" быў выпадковым з боку перакладчыка, то, хоць



Остатки неизвестной нам исторической эпохи свидетельствуют о высоком развитии прежних местных культур, которые, безусловно, ни в чем не уступали культурам Европы того же периода.

И названия "индейцы" и краснокожие", что потом прилепили коренным жителям этого континента не соответствуют действительности. Жили же люди не в Индии, да и кожа их никогда не была красной, если не разрисовывали намеренно тело красной охрой.

Они не знали письменности. Нам неизвестны имена их вождей, выдающихся людей, имена их воинов.

До нас дошли только предания, которые передавались из поколения в поколение, остроумные, хитроватые, волнующие легенды...

Легенды, которые делают их, этих незнакомцев, людьми очень близкими нам...

Еще не перевелись те, кто знает, кто помнит.
Я слушал их рассказы под красными вербами
на берегу Верхнего озера.
Когда-то здесь не было никаких озер...

ВЕЛИКАЯ ЧЕРЕПАХА.

Давно, очень давно было все это. Так давно, что мало осталось между нами людей, чтобы помнить.

В те времена Красные люди еще не были разделены на разноименные племена или кланы. Они составляли единый народ, который назывался телегвы.

...Долго шли телегвы, направляющиеся с севера, долго брели они, одно поколение сменяло другое, пока на пути не раскинулась широкая низина, заросшая осокой. Везде, куда кинуть оком, лежали болота, гнилые озерца, прогорклые ручьи.

Людей мучила жажда, но когда они попробовали смердящей воды, то много воинов заболело, умерло много женщин и детей.

Тот, кто вел их, был очень мудрый человек. Его звали А-ры-ка, что на языке телегвов означает Тот-Кто-Носит-Рога, потому что рога являются символом мудрости и предвидения. Он был пуву - Великий колдун - телегвов, и он научил свое племя собирать дикий рис. Было у него три сына: Ва-ху-ва-па, Початок Кукурузы, Ном-ва-а-па, Две Войны и О-ки-хи-дзи, Сова.

Как-то ночью, когда лагерь содрогался от стонов больных, А-ры-ка увидел сон: будто бы три его сына стояли на гигантской Черепахе, из

*Жан Оливье. Prologue, pt. 2 (originally in French as "Au pays des Indiens" by Jean Ollivier)*



*Жан Оливье (back of typescript). Drawing by Alena Kastsenka. Елена Костенко (Бриш)*

